ШКОЛЬНАЯ
БІБЛІЯТЭКА

ЯКУБ КОЛАС

# ВЕРШЫ






ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
ПРЫ СНК БССР

ШКОЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА

ЯКУБ КОЛАС

# ВЕРШЫ

*Уступны артыкул*
*М. КЛІМКОВІЧА*








ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА пры СНК БССР
РЭДАКЦЫЯ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ
МІНСК — 1940



# ЯКУБ КОЛАС

Адна з цікавейшых спраў на свеце—прайсці разам з выдатным паэтам па яго жыццёвай дарозе, убачыць тое, што ён бачыў, перажыць тое, што ён перажыў, пазнаёміцца з усімі яго думкамі, жаданнямі, марамі, радавацца яго радасцю, смуткаваць яго смуткам. Ідучы па гэтай дарозе, ты ўбачыш, як многа тваіх уласных думак выказаў паэт, і выказаў так дасканала, нібыта ён падслухаў нават тое, што ты нікому не казаў, а толькі думаў. Ты знойдзеш у яго вершах хвіліны з свайго жыцця—і смутныя, і радасныя, знойдзеш свае пачуцці, свае мары. Хто з нас не радаваўся прыходу вясны, не любаваўся маладой стромкай бярозкай, ледзь апушанай жоўта-зялёнай дымкай першых кволых лісточкаў, не глядзеў неадрыўна на магутныя крыгі ў час веснавых паводак, і каму з нас не хацелася тады выліць свае пачуцці ў вершы, у песню? Хто з нас не сумаваў, бачачы адлёт птушак у вырай, хто не захапляўся летняй навальніцай, хто не любаваўся дарогай у спелым жыце? У каго з усімі гэтымі з'явамі прыроды не звязваліся асабістыя ўспаміны, асабістыя вясёлыя і смутныя перажыванні, і хто не адчуе ўдзячнасці паэту за тое, што ён уклаў гэтыя перажыванні ў такія цудоўныя, цёплыя, глыбока-прачулыя і мілагучныя радкі?

Ды і не адны з'явы прыроды спыняць нашу ўвагу ў творчасці паэта. Мы жывем у чалавечым грамадстве, і з'явы грамадскага жыцця нас моцна хвалююць. Адны

з іх нас радуюць, захапляюць, абуджаюць жаданні самім уключыцца ў работу, якую апявае паэт, другія, наадварот, выклікаюць у нас гнеў, жаданне змагацца з імі і разам з паэтам перамагчы іх. Многае таксама падскажа нам пісьменнік, прымусіць перажыць тое, чаго мы ў жыцці не перажывалі, многа думак паведаміць новых, сваіх, для нас невядомых, нязнаных. І, закрываючы кнігу вялікага пісьменніка, адчуваеш, што ты ўзбагаціўся новымі ведамі, новымі пачуццямі, што неяк вырас і неяк пасталеў, нібыта сам пражыў частку яго жыцця.

Вось і гэтая кніга, у якой сабраны лепшыя лірычныя творы аднаго з буйнейшых пісьменнікаў Беларусі— народнага паэта рэспублікі ордэнаносца Якуба Коласа,—ёсць яго жыццёвы шлях за 35 год. Чытаючы яе, ты пройдзеш разам з ім праз яго жыццё, паглядзіш яго вачыма на вакольны свет, на жыццё беларускага селяніна, на лёс перадавой інтэлігенцыі. За 35 год непазнавальна змянілася наша краіна. Ты пабачыш, чым была яна даўней, чым стала цяпер, і ўсё гэта ты пазнаеш праз высокамастацкія літаратурныя вобразы, праз пачуцці паэта-лірыка, аднаго з старэйшых і буйнейшых майстраў мастацкага слова ў беларускай літаратуры. Праўда, у гэтым зборніку не ўсё, што напісаў Якуб Колас. Тут няма яго класічнай паэмы «Новая Зямля», чытаючы якую ты-б мог наглядна ўбачыць дзіцячыя гады Якуба Коласа; няма тут другой паэмы—«Сымон музыка», няма яго празаічных твораў «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся», п'есы «Забастоўшчыкі», якія-б расказалі табе аб умовах яго юнацкага жыцця; няма усім вядомай аповесці «Дрыгва», няма паэмы «На шляхох волі». Але мы ўпэўнены, што, прачытаўшы гэты зборнік лірычных вершаў, ты захочаш знайсці і астатнія творы Якуба Коласа, каб пазнаёміцца з усёй яго творчасцю.

Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) пачаў

друкавацца ў 1906 годзе. Аднак пісаць ён пачаў яшчэ раней, зусім юнаком. У сваіх успамінах паэт гаворыць, што, яшчэ будучы вучнем мікалаеўскага народнага вучылішча, ён атрымаў ад свайго дзядзькі Антона ў падарунак «Байкі» Крылова, і гэтыя байкі падштурхнулі яго думку на складанне вершаў. За першы свой верш ён атрымаў ад бацькі срэбраны рубель. «Гэта і быў мой першы ганарар»,—кажа Колас. Бацька Коласа, Міхась Казіміравіч Міцкевіч,—малазямельны селянін вёскі Мікалаеўшчыны—вымушан быў служыць леснікам у князя Радзівіла, спачатку ў засценку Акінчыцы каля Свержаня (дзе і нарадзіўся Колас у 1882 годзе 22 кастрычніка), а потым у Альбуці. Навакольнае жыццё будзіла творчую думку маладога Коласа. Цудоўныя малюнкі прыроды, асабліва бору, пакідалі ў душы дзіцяці незгладзімы след. Яшчэ большы ўплыў рабілі на яго гутаркі сялян, якія заязджалі да бацькі і па справах, і проста пагрэцца ў зімовы дзень, бо хата лесніка стаяла ля праезнай дарогі. Колькі апавяданняў і пра гора, і пра цікавыя прыгоды, колькі народнага юмару наслухаўся малы Кастусь у гэты час! А колькі народных песень і казак ён чуў і ад сваёй маткі, і ад цёткі, і ад вясковых дзяўчат у час жніва, у час вясновых пагулянак, ужо будучы ў школе! Усё гэта, як добрае семя, лажылася на ўражлівую душу юнака, усё стала глебай, на якой вырасла яго паэзія.

Але па-сапраўднаму прыглядацца да жыцця пісьменнік пачаў у Несвіжскай семінарыі, куды ён паступіў пасля сканчэння народнай школы ў 1898 годзе. Тут перад яго вачыма быў старынны Несвіжскі замак, куды бацькі яго павінны былі штогод вазіць «аброк»—рыбу, грыбы, забітую дзічыну—нібы ў далёкія часы прыгону. Тут ён мог параўнаць жыццё сялян з жыццём польскага магната, які, як павук, працягваў тысячы сваіх цянётаў да кожнай хаты малазямельнага і беззямель-

нага селяніна і цягнуў да сябе здабыткі іх крывавага поту. Тут да паслуг пісьменніка было ўсё багацце рускай класічнай літаратуры. Тут ён пачаў разумець і нацыянальную палітыку царызма. Вяртаючыся ў час летніх канікул дадому, Колас чуў размовы сялян пра зямлю, незадавальненне царскім урадам, царскімі чыноўнікамі і служкамі князя Радзівіла. Новы ляснічы быў чалавек прыдзірчывы, перакідаў леснікоў з абжытых месц, пагардліва адносіўся да сялян. І ўжо свядомымі вачыма Колас пачаў глядзець і на прыроду свайго краю, і на яго народ. Яго вершы, пісаныя спачатку на рускай мове, загучэлі тугой:

Бедный край мой! Край родной!
Родина моя ты!
Смотрят избы сиротой,
Понагнулись хаты.
Мрачно в хате и темно,
Гарью подувает,
А сквозь тусклое окно
Ветер в дом влетает.

Где ни глянешь, то клеймо
Нищеты, страданья,
Носят панщины ярмо
Бедные крестьяне.

Выпадкова ў рукі Коласа трапіў журнал са здымкам беларускай вёскі і селяніна, які спявае песню:

„Ой, без дудкі, без дуды
Ходзяць ногі не туды!“

Гэтая песня, напісаная па-беларуску, спыніла ўвагу Коласа, і ён сам пачаў пісаць на беларускай мове.

У 1902 годзе, скончыўшы семінарыю, Колас паехаў настаўнічаць у вёску Люсіна, на Палессі, каля Ганцэвіч. Вёска была глухая і бедная, як большасць вёсак таго часу. Але і сюды, у палескую глуш, даходзілі першыя раскаты грому надыходзячай рэвалюцыі 1905 года. Чутка прыслухоўваўся да іх малады Колас,

гутарыў з сялянамі, з настаўнікамі суседніх школ. Калі надышла рэвалюцыя, ён стаў на яе бок.

Напярэдадні рэвалюцыі ён піша свой верш, які першым пабачыў свет:

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо, як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Гэты верш вывучаецца ў нашых школах, ён стаў агульнавядомым. І кожны чалавек, успамінаючы Коласа, успамінае і першы яго верш таксама, як, скажам, успамінаючы Пушкіна,—успамінае яго «Памятник». Такія вершы называюцца праграмнымі вершамі. У іх паэт акрэслівае свой палітычны і паэтычны напрамак ці дае ацэнку сваёй, ужо ўсталяваўшайся, творчасці. Для Коласа гэты верш быў праграмай яго будучай паэтычнай дзейнасці. Чаму-ж Колас, які наогул быў жыццерадасным чалавекам, вельмі схільным да юмару, вызначаў для сябе, як для паэта, шлях пяўца смутку і жалю? Адказ мы знойдзем у самой творчасці паэта.

Ужо ў той час Колас бачыў, што свет падзелен на дзве няроўныя часткі. З аднаго боку—сялянскія вёскі з абросшымі мохам і плесняй хаткамі, што збіліся, як авечкі ў летнюю спёку, з дварамі, усё багацце якіх заключаецца ў кучах смецця, з сялібамі ўдоў у канцы сяла, ад якіх вее невымоўным сумам і галечай, з убогімі, неўрадлівымі нівамі. А з другога боку—панскія палацы, раскошныя абшары палёў, апрацаваных батрацкімі рукамі. Колас бачыў, што гэтыя дзве часткі не жывуць ізалявана адна ад другой, а наадварот: багачы і панства жывуць з поту і крыві беднаты, багацеюць з яе працы. Колас бачыў таксама, што бедната гатова змагацца супроць несправядлівага ладу і ніколі не прымірыцца з ім, але гэты лад ахоўваецца царскім урадам. Колас разумеў, што той, хто па-

сапраўднаму любіць народ, павінен дапамагчы яму ў барацьбе з гэтым ладам. Аднаго не бачыў Колас з сваёй палескай глушы—таго адзінага шляху, які можа прывесці да перамогі,—шляху пролетарскай рэвалюцыі. Ды і адкуль яму, жыўшаму ў глушы і ніколі не бачыўшаму вялікага горада і вялікага завода, яму, да якога паліцыя зачыніла ўсе каналы, па якіх магла-б прысці рэволюцыйная кніжка,—было ведаць, што адзіным паслядоўна-рэволюцыйным класам, здольным канчаткова вызваліць сялянства ад кабалы і эксплаатацыі, быў рабочы клас? Многія вінавацілі ў гэтым Коласа, забываючы рэальную гістарычную абстаноўку, у якой ён жыў і развіваўся. Аднак гэтае абвінавачванне падобна да таго, калі-б хто абвінаваціў сялянства былой царскай Расіі, што яно спазнілася падтрымаць рабочыя выступленні 1905 года, або абвінаваціў тых рабочых, якія пайшлі за Гапонам у крывавую нядзелю 9 студзеня 1905 года. І сялянству, і многім рабочым патрэбен быў вопыт рэволюцыі 1905 года, каб усвядоміць свае класавыя інтарэсы, зразумець правільнасць лозунгаў большэвіцкай партыі і пайсці за імі. Колас быў рэволюцыйным сялянскім дэмакратам, і ён чэсна і да канца паслядоўна дапамагаў рабочаму класу і яго партыі дапоўніць рабочыя паўстанні «другім выданнем сялянскай вайны».

Тав. Ленін у кнізе «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі»[1] пісаў: «Ёсць буржуазная дэмакратыя і буржуазная дэмакратыя. І земец-манархіст, старроннік верхняй палаты, які «запрашвае» ўсеагульнае выбарчае права, а ўпотай, цішком заключае з царызмам здзелку наконт куцай канстытуцыі, ёсць буржуазны дэмакрат. І селянін, які са зброяй у руках ідзе супроць памешчыкаў і чыноўнікаў, які

[1] В. І. Ленін, Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі. Дзярж. выдавецтва пры СНК БССР, Мінск, 1939 г., стар. 29.

«наіўна, па-рэспубліканску» прапануе «прагнаць цара», ёсць таксама буржуазны дэмакрат»... «Добры быў-бы той марксіст, які ў эпоху дэмакратычнага перавароту празяваў-бы гэтую розніцу паміж ступенямі дэмакратызма і паміж розным характарам той ці іншай формы яго і абмяжоўваўся-б «мудраваннем» наконт таго, што ўсё-ж гэта «буржуазная рэволюцыя», плады «буржуазнай рэволюцыі».

І ў другім месцы той-жа кнігі (на стар. 25) Ленін кажа: «З'езд партыі сваёй рэзалюцыяй свядома *падымае* да свайго ўзроўню здольныя на барацьбу, а не на маклёрства, элементы рэволюцыйнай дэмакратыі. Такіх элементаў больш за ўсё сярод сялянства. Без вялікай памылкі, пры размеркаванні буйных грамадскіх груп па іх палітычных тэндэнцыях, мы можам атаясніць рэволюцыйную і рэспубліканскую дэмакратыю з масай сялянства,—зразумела, у тым-жа сэнсе, з тымі-ж агаворкамі і падразумяваемымі ўмовамі, з якімі можна атаясняць рабочы клас з соцыял-дэмакратыяй». У другім сваім артыкуле («У хвасце манархічнай буржуазіі ці на чале рэволюцыйнага пролетарыята і сялянства»[1]) Ленін кажа, што «інтэлігенцыя больш здольна выражаць інтарэсы шырокай масы дробнай буржуазіі і сялянства» (стар. 168) і што «*пры ўмове збліжэння з народам* яна можа стаць буйнай сілай» у рэволюцыйнай барацьбе з самадзяржаўем. Ленін раіў там-жа (стар. 170): «падтрымліваць левае крыло (інтэлігенцыі.—*М. К.)* і *цягнуць яго да сябе*, старацца вылучыць элементы *рэволюцыйнай дэмакратыі (*Курсіў усюды мой.—*М. К.),* каб з імі разам ударыць на самадзяржаўе».

Прадстаўніком левага крыла сялянскай рэволюцыйнай дэмакратыі, якая дапамагала партыі наносіць удары па самадзяржаўю і па яго апоры—памешчыцка-

---

[1] Ленін, том VIII, выд. 3-е, стар. 166.

паліцэйскаму ладу, і быў Колас на этапах рэволюцыі 1905 года і пасля яе. Рабіў гэта ён і як грамадскі дзеяч—у сваіх гутарках з сялянамі, у рабоце сярод настаўнікаў, і як пісьменнік—сваёй творчасцю. У сваім вядомым вершы «Ворагам» (1906 г.) ён пісаў:

Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі"!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І на грозных межах
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

„Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

... Ласкаю-ж чыёю
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?.."

Адказ на гэта адзін: усё гэта зроблена на сродкі аграбленага працоўнага чалавека, якога «багачы і панства» хочуць і далей трымаць у ярме. Колас рэзка фармуліруе вывад, які патрэбна зрабіць з гэтага становішча:

Багачы і панства
І вы ўсе, брадзягі,
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

Гэта быў другі праграмны верш Якуба Коласа, які фармуліраваў палітычнае «крэда» (веру) яго паэзіі.

Матывы абодвух вершаў («Не пытайце, не прасіце» і «Ворагам») перапляліся ў творчасці Коласа часоў рэвалюцыі 1905 года і сталі зместам яго паэзіі, прычым асноўным яе матывам, лейт-матывам, з'яўлялася палітычная барацьба з царызмам і з панамі-памешчыкамі. Нават мінорныя (прасякнутыя пачуццем смутку) пейзажы, нават плач над «краем, забытым богам», нават цудоўныя бытавыя малюнкі—накшталт «Жніва», «Маці» або «Ўдовінай хаты»—падпарадкаваны гэтай барацьбе з царызмам і панамі. У «Нашай долі»—поруч з паказам таго, як «Нашы хаты, вёскі, сёлы сівым мохам абраслі», поруч з малюнкам нівы, якая «не красуе», і лугу, які «не цешыць нам вачэй»,—Колас не забываецца падкрэсліць, што на гэтай ніве і на гэтым лузе працуе

Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ.

Цудоўны пейзажны верш «Дарога», абапал якой «нізенькі яловец чэзне, бы ў няволі», а на перасеках крыж «аб пакуце кажа», Колас заканчвае такімі радкамі:

Ой, дарога-сцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыцце наша,
Ты, доля, такая!

Гэтыя і многія іншыя вершы Коласа здзіўляюць нас сваёй прастатой. Але гэта толькі першае ўражанне. Прастата тут непарыўна звязана з тымі мэтамі, якія ставіў паэт перад сваёй паэзіяй. Яму патрэбна было давесці свае думкі да народа, нават не да інтэлігенцыі, якая вышла з народа, а да самога народа, усё літаратурна-мастацкае выхаванне якога абмяжоўвалася народнай песняй з яе паўтараючымся колам вобразаў, параўнанняў, эпітэтаў. І Колас свядома арыентыраваўся на слоўнік народа, на кола тых уяўлен-

няў, якія меліся ў селяніна, на яго злабадзённыя інтарэсы. Ён выбіраў і для свайго пейзажа, і для перадачы свайго настрою такія дэталі, якія максімальна набліжалі яго да народа. Гэтым самым ён выклікаў давер'е народа да сваёй паэзіі, рабіў магчымым пранікненне сваіх твораў, мінуючы друк, у самыя гушчы народа, перадачу іх вусным парадкам. Бо ён добра ведаў, што не ўсякі яго верш трапіць у друк. А яму патрэбна было, каб кожны яго верш дайшоў да народа, бо ён быў паэтам-палітыкам, яго паэзія была дзейснай палітычнай паэзіяй. Вось чаму Колас на гэтым этапе не гоніцца за разнастайнасцю паэтычных форм ці за вялікай ускладнёнасцю паэтычнага радка. Нават у сваіх параўнаннях ён аддае перавагу такім, якія ўжывае сам народ («глуха, як у лесе», «ціха, як ў магіле»). Аднак, простымі і паэтычнымі прыёмамі Колас карыстаецца з вялікім майстэрствам. Прачытайце, напрыклад, яго верш «Мужык»:

То не дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў,—
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.

Або верш «Удовіна хата»:

З краю вёскі сірацінай
Заняпала хата.
Тут не ладзяць вечарынак,
Не прадуць дзяўчаты.

Спарахнелі броўны ў сценах,
Вырас мох на стрэсе.
Сыра ў хаце, пуста ў сенях,
Глуха, як у лесе.

Прытуліўся хлеўчык збоку,
Як дзіця да маткі.
Смутна сэрцу, нудна воку,
Як зірнеш на хатку.

Шыбы ў вокнах перавіты,
Як-бы ў пераплёце,
Каля ганку дол парыты,
Збан, гаршчок на плоце.

Толькі чатыры страфы, а перад вамі цэлая карціна. Хата бяднячкі-бабылкі самая апошняя ў сяле, адкрытая ўсім чатыром вятрам з поля, але затое закрытая для весялосці, нават для чужой, суседскай («тут не ладзяць вечарынак, не прадуць дзяўчаты»),—устае перад вачыма, як намаляваная мастаком. Ад карціны вее настроем стварыўшага яе мастака, і апошні радок гучыць, як надпіс пад карцінай:

Тут удоўка гіне.

З прастатой і некаторай прымітыўнасцю коласаўскай паэтыкі гэтага часу паўтараецца тое, што мы бачым у народнай паэзіі: здавалася-б зусім простыя, часамі прымітыўныя прыёмы нечакана для нас ствараюць дыяменты паэзіі, якія пад сілу толькі вялікаму мастаку і якія жывуць тысячагоддзі. Знікне з'ява, парадзіўшая іх, а яны будуць жыць і аднаўляць у памяці людзей усё, што ўклаў у іх мастак многа-многа вякоў таму назад. І ў той-жа час—яны дзеці свайго часу з ярка выражанай грамадскай функцыяй. Коласу трэба было будзіць у народзе ўсведамленне, што яму—народу— дрэнна жывецца, што цяжар дайшоў да мяжы, за якой толькі два выхады: або поўнае выміранне, або барацьба за новае, шчаслівае жыццё. І Колас страсна і ўпарта будзіць апошнюю думку:

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.

Ці-ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці-ж нам сілы бог не даў?
Ці-ж над родным нашым краем
Промень волі не блішчаў?

Перад Коласам і народам два ворагі—пан і цар. З панамі ясна, як расправіцца,—трэба адабраць ад іх зямлю, а саміх паноў перавешаць. Гэта адзіны верны шлях ад беднасці да чалавечага жыцця:

Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць.

Так кажа хворы, а можа і збіты паліцыяй Грышка свайму прыяцелю старому Міколе, які думае, што паны і ўлада па сваёй добрай волі дадуць мужыку зямлю. Адабраць зямлю ў пана—гэты лозунг зразумелы для селяніна і найбольш блізкі яму. Трэба толькі знішчыць надзею, што гэтая зямля нарэшце будзе дадзена яму царом, і выкаваць думку, што народ мае права ўспрацівіцца «божаму памазаніку», яго паліцыі, а таксама разбурыць усе тыя хітрыкі, якімі цар апутваў народ, каб утрымацца на троне і ўтрымаць народ у ярме. І Колас накіроўвае ўсю сілу сваёй вострай сатыры на цара, на яго канстытуцыю, на яго Думу. Ён нізводзіць цара з яго п'едэстала, на які ён быў узведзен векавым выхаваннем народа ў пакоры і пашане да «царскай асобы». Колас едка высмейвае царскую сям'ю і пошукі сына-наследніка. Пра самога цара ён піша:

Да чаго-ж мы дажыліся!
Эх, падвёў ты нас, царок!
Каб табе бог даў на старасць
Лапці, торбу і мяшок.

Ані хлеба, ані солі,
Ні купіць нам, ні прадаць...
Эх, не вер цару ніколі—
Хоча зноў нас ашукаць.

А ў чым ашуканства—Колас паказвае ў вершы «Канстытуцыя».

Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы
І... ў астрог нас павялі,
І таўкуць без меры.

Віта нам дакляраваў—
Помніце?—свабоду.
Потым хвігу паказаў
„Вернаму“ народу.

Зашумелі аб зямлі
Ў Думе дэпутаты,
Дык па карку ім далі—
І пайшлі дахаты.

Не мінае Коласава сатыра і царквы—абаронцы цара:

Архірэй наш Міхаіл
Тураўскі і Мінскі
Чорнай сотні толькі міл,
Бо робіць па-свінскі.

Другі раз паэт вяртаецца да цара і царквы ў вершы «Малебен», едка высмейваючы і аднаго, і другую:

Вось цар занудзіўся,
Што сын не радзіўся.
Беглі, шлі гадочкі.
Раджаліся дочкі.
Раздаў цар мільёны
На цэрквы, на звоны:
Сына прасіце, папочкі!

Трасліся ўсе муры,
Папы лезлі з скуры—
Кадзілам махалі,
Чыталі, спявалі,
Трывожылі бога,—
Не вышла нічога:
Ўсе модлы прапалі.

Канчаецца гэты «малебен» такімі словамі:

Пануй, Мікалае,
Часіна такая,
Трымайся прастола,

А будзе вас гола.
Аканчан малебен,
Ты нам не патрэбен,
Другі і апошні Мікола!

Часта дастаецца ад Коласа царскай паліцыі. Прадаўжаючы добрыя традыцыі рускай, украінскай і беларускай літаратуры (Пушкін, Лермантаў, Шэўчэнка, Багушэвіч), Колас будзіў нянавісць да царскай паліцыі. У тым самым вершы «Канстытуцыя» ён піша:

Ганчакамі па Русі
Прыставы лятаюць,
Нас цкуюць—кусі, кусі!
Як зайцоў, страляюць.
    Развялося стражнікоў,
    Як якой жывёлы,
    Ад іх плешак і шнуроў
    Чырванеюць сёлы.

Коласу дастаўляла вялікую асалоду высмейваць дурную царскую паліцыю ў яе-ж на вачах. У 1907 годзе ён паехаў у Пецербург, збегшы ад «надзора паліцыі», парушыўшы яе забарону нікуды не выязджаць да суда. Спыніцца ў гасцініцы ён не мог з-за прыпіскі, спыніўся ў пакойчыку, які наймала адна знаёмая студэнтка, на гэты час выехаўшая на канікулы. «Нелегальны» Колас часта падыходзіў да гарадавых, распытваў у іх пра дарогу ў музей, у тэатры, у бібліятэкі і пасля смяяўся з сваімі прыяцелямі, што ён першы раз у жыцці знайшоў выпадак, калі царская паліцыя магла спатрэбіцца хоць на што-небудзь карыснае. У газеце «Наша Ніва» яму ўдалося надрукаваць верш «Першае знаёмства», дзе пад выглядам спаткання з дзяўчынай досыць празрыста апісан паліцэйскі вобыск. Паліцэйскі цэнзар, прачытаўшы першыя радкі аб салаўі, месяцы і язміне, даў дазвол на друк, не глянуўшы ў канец. А ў канцы было вось што:

І ўвесь час на тваім твару
Не сходзіла строгасць, злосць
І, сказаўшы слоў мне пару,
Запытала: „Пашпарт ёсць?"

Ты набрала маіх кніжак
Два партфелі і прыпол,
А каб быць знаёмым бліжай,
Напісала пратакол.

Колас ненавідзеў паліцыю і ў барацьбе з ёю пускаў у ход усе сродкі—ад дыскрэдытацыі яе сваімі юмарэскамі да прамога закліку знішчаць яе разам з царскім ладам.

Такімі былі пазіцыі Коласа ў рэвалюцыі 1905 года. Не становячыся ў позу прарока, ён гаварыў з народам, як прадстаўнік гэтага народа, як роўны сярод роўных, гаварыў не з аратарскай трыбуны, а ў самай народнай гушчы, шукаючы не высокіх аратарскіх зваротаў, а найбольш простых, зразумелых і пераканаўчых прыкладаў, якія-б абудзілі народ і рушылі яго ўсёй масай на цара і паноў.

Ідучы ў сваіх паэтычных формах не ад лірычнаўзнёслай, а ад бытавой народнай паэзіі, ад сатырычнай казкі і песні, ад моцнага народнага слова, заключанага ў мудрае выслоўе, у пагаворку, ён падкрэсліваў, што паэзія яго—мужыцкая, «плебейская», свая, для народа, прызначаная для таго, каб зваць малазямельную вёску «па-плебейску» расправіцца з царом і панамі. Абагульваючы вобразы паноў у адзін вобраз ворага ўсяго народа, ката і злодзея, абакраўшага народ,—Колас персаніфіцыруе толькі цара, як галоўнага ворага, ды бадай яшчэ прыстава, як галоўнага сабаку цара. Затое ён ахвотна персаніфіцыруе прадстаўнікоў народа, дэталёва апісвае і ўдаву з яе гаспадаркай, і маці, якая думае аб сваёй сям'і, і Грышку з Міколам, якія вядуць размову пра зямлю, і «няўдачніка»-селяніна, якога заўсёды «асаджвалі назад» і толькі два разы далі выйсці наперад, ды і то для таго, каб арыштаваць і пабіць.

Рэволюцыя 1905 года была разбіта і патоплена ў крыві рабочых і сялян. Царскі ўрад паступова аправіўся ад смяротнага жаху і пачаў расправу над усімі ўдзельнікамі рэволюцыі, якіх ён лічыў для сябе небяспечнымі. 15 верасня 1908 года Колас аж на 3 гады папаў у Мінскі астрог за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе ў Мікалаеўшчыне. На сваё зняволенне ён адказаў вершам «У няволі»:

За народ, што пад ярмом
Шыю гне і спіну,
Што кляне лёс ціхачом
Кожную часіну;

За народ, што марна сохне,
За святое брацтва
Адабралі ад мяне
Ўсё маё багацтва...

У паэта адабралі самае каштоўнае—волю. Гэтым царскі ўрад думаў зламаць паэта і прымусіць яго замоўкнуць, хаця продкі Нікалая II маглі-б пасведчыць, што такія спробы ніколі не мелі поспеху. У тым-жа вершы Колас пісаў:

Што-ж? няхай мой вузкі круг,
Няхай я ў няволі,
Толькі-ж ім свабодны дух
Не стрымаць ніколі!

Толькі думак не стрымаць,
Не загнаць у клетку...

А думкі паэта былі з яго народам, з яго гаротнай Беларуссю. У турме ён напісаў рад вострых вершаў, накіраваных супроць цара, удзельнічаў у пратэсце палітзняволеных супроць прыраўнання іх рэжыму да рэжыму крымінальных. Адміністрацыя мінскай турмы 23 красавіка 1909 года патрабавала, каб палітзняволеныя ўставалі перад «начальствам».

«Мы адмовіліся,—пісаў Колас у адным сваім лісце,—і за гэта прыдзецца адседзець сем дзён у карцары, ды і сямю гэта яшчэ не абмяжуецца. А што такое тутэйшы карцар,—Вы можаце сабе прадставіць. У апісанні дантаўскага пекла ён заняў-бы не апошняе месца. Але ўсё перажывем. Жыццё нас не песціла і карцар не вельмі палохае».

Што Коласа не зламала ні турма, ні карцар, сведчыць хаця-б тое, што ён за адзін год адседкі напісаў звыш поўсотні вершаў. Са зместам гэтых вершаў вы пазнаёміцеся ў даным зборніку,—гэта вершы, датыраваныя 1908—1911 гадамі. Асноўным стрыжнем іх з'яўлялася думка аб волі. Паэт рвецца на волю:

Дзікія гусанькі, птушачкі вольныя,
Веснікі скорай зімы!
Хочацца з вамі мне ў стэпы прасторныя,
К свету і сонцу ад цьмы.

Толькі-ж падрэзаны крыллі свабодныя.
Моцна пільнуюць мяне
Дзверы акутыя, сцены халодныя,
Краты з жалеза ў акне.

Ён разам з Пракопам—селянінам-рыбаком, які піша пісьмо з астрога, разам са Сцёпкам (верш «У астрозе») і другімі афярамі царскай расправы, з удзельнікамі рэволюцыі імкнецца на волю.

Але не аб адной сваёй волі марыць паэт. Найбольшую тугу ў яго выклікае тое, што рэволюцыйны рух пайшоў на спад, што настала «часіна такая», калі Нікалай і яго «прысныя» могуць «трымацца прастола». Паэт скардзіцца на цемру, на цішыню і глухмень:

Глуха стала пасля буры,
Нудна цягнуцца дзянькі.
Не праб'ецца крык праз муры,
Крэпкі ржавыя замкі.

Асабліва востра паэт перажывае адыход інтэлігенцыі ад рэвалюцыі. Ідучы ў турму, ён кідае кліч да тых, хто змагаўся за справу народа і каго царскі ўрад раскідаў ва ўсе бакі:

Не тушыце-ж вы
Той агонь святы,
Асвятляйце ім
Родны край, куты...

Прайшоў год, і паэт кідае «Покліч» з турмы:

Гэй, чуеце, хлопцы? Дзе вы, скажэце?
Развеены ветрам па беламу свеце.

Па ўсіх вы куточках маўчком распаўзліся,
Ад думак даўнейшых сваіх адракліся.

Забылі вы песню пра вольную волю,
Змаганне за шчасце, за лепшую долю.

Адспевана песня, бясследна прапала,
Бо хлеба скарынка язык вам звязала

І нізка прыгнула вас першая бура—
Ацесліва, хлопцы, знаць ваша натура.

І тыя ярэм'і, што вы асмяялі,
Вы зноў-жа пакорна на шыі паклалі!

Ці чуеце, хлопцы?.. Адказу не маю
І „вечны пакой“ вам ў астрозе спяваю.

Паэт накідвае рад бытавых малюнкаў турэмнага жыцця, уваскрашае ў памяці карціны расправы цара з сялянствам, і яго зноў апаноўвае гнеў на цара-ката, на ката-пана (верш «Цемра»). Ён зноў адчувае патрэбу будзіць сілы народа, адчувае сілу змагацца. Час рэакцыі яму ўяўляецца чорнай ноччу, у якой толькі совы крычаць па трушчобах глухіх ды над балотамі загараецца і знікае падманны блеск блукаючых агнёў. Але паэт верыць, што гэтая жудасць не надоўга.

Ды не бойся, мой брат,
Гэтай жудкай цішы,
І свайго ты агню
Не тушы, не тушы!

Пройдзе ноч, знікне цьма,
Непраглядны мрок-цень.
Змоўкнуць совы ў дуплах,
Як развідніцца дзень.

У гэты дзень паэт моцна верыць і напружвае ўсе сілы, каб паскорыць прыход яго. Ён зноў абрушвае на царскі лад астрыё сваёй сатыры (гл. яго абразок «У судзе», верш «Дзе дзенешся» і інш.). Ён будзіць веру народа ў свае сілы, у сваю перамогу над царом.

Я—мужык, не чую звону,
Толькі ж есць мяне чарвяк:
Ці не брэша поп з амбону,
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, не так!

Я—мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!"

Нават апісаннем цемры і цішы Колас будзіць грамадскую думку супроць тых, хто ператварыў грамадскае жыццё ў могільнік. Паэт чакае буры і ёй прысвячае адзін з сваіх лепшых вершаў «Ноч перад навальніцай».

Паэт страсна верыць у перамогу, у тое, што «наша возьме».

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

Ён бачыць і шлях гэтай перамогі: аб'яднанне ўсяго народа. У «Песнях вясны» ён піша:

Людзі-волаты! глядзеце,
Колькі гонім мы вады,
Бо яднанне—сіла ў свеце,
Хто-ж дужэй ад грамады?

...Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасць—першы крок свабоды,
Згода—сіла грамады.

І гэтая вера падтрымлівае яго ў дні цяжкіх настрояў, у дні, калі ён балюча адчувае ўласнае зняволенне і адыход ад народнай справы сваіх сяброў. Яна падтрымлівае яго ў цяжкія астрожныя ночы, калі

Нудна, як ў магіле,
Глуха, як ў труне.

Чытаючы вершы Коласа, напісаныя ў турме, адчуваеш, што Колас многае прадумаў, многа папрацаваў над сабой. У яго вершах пачынаюць з'яўляцца больш глыбокія абагульненні і вывады. Першапачатковая пераклічка з Шэўчэнкам, з Лермантавым, з Некрасавым перарастае ў сталую вучобу ў класікаў рускай і украінскай літаратуры.

Лермантаўскія настроі выліваюцца ў Коласа ў вершы «Хмаркі», «Покліч», «Зоры далёкія», дзе паэт гаворыць аб сваім адзіноцтве, аб адсутнасці прыяцеляў і аднадумцаў, аб сініх мундзірах з іх прадажнасцю і назольнасцю, ад якіх хочацца збегчы за трыдзевяць зямель. У Лермантава Колас вучыцца і большай разнастайнасці паэтычных форм, большай дасканаласці верша, майстэрству пейзажа.

Шэўчэнкаўскія вобразы сіраты-батрачкі, мацеры, якая сумуе па забраным сыне, шэўчэнкаўскі зварот да думак—дзяцей сэрца, шэўчэнкаўская любоў да роднага краю і непахіснае жаданне абудзіць яго—усё часцей і часцей гучаць у паэзіі Коласа. Але ў той-жа час Колас асноўвае свае вершы на сваіх уласных пачуццях, на матэрыяле тагачаснай Беларусі, ён будуе іх на беларускім матэрыяле ад тэмы да пейзажа. У гэтых вершах толькі водгук творчасці вялікага

украінскага паэта-дэмакрата. Такім-жа водгукам з'яўляюцца і засвоеныя паэтам насмешліва-пагардлівыя адносіны да цара і яго «мілай сямейкі», адносіны, якія не пакідаюць Коласа аж да рэвалюцыі, як не пакідае яго шэўчэнкаўская нянавісць да цара.

Трэба адзначыць, што ў радзе вершаў, прысвечаных грамадска-палітычным пытанням і долі селяніна, Колас развівае тыя думкі і пачуцці, што гучэлі ў творчасці Багушэвіча, які таксама пісаў пад некаторым уплывам Шэўчэнкі і таксама надаваў ім сугуба-нацыянальную форму. Гэтыя настроі і вобразы чэрпаў паэт і ў творчасці вялікага рускага паэта Некрасава, якога ён любіў яшчэ са школьнай парты.

Але ўсё гэта не зніжае індывідуальнасці паэта, не заглушае яго ўласнага паэтычнага голасу. Яркасць і арыгінальнасць яго вершаў адзначыў Аляксей Максімавіч Горкі, які пажадаў тагачасным рускім пісьменнікам павучыцца ў Коласа і Купалы цеплыні, прастаце і вялікай эмацыянальнасці, якімі адзначалася паэзія маладых яшчэ тады беларускіх паэтаў.

У гэты-ж час у Коласа мацней пачынае гучаць тэма бацькаўшчыны. Пры гэтым Колас амаль ніколі не адрываў сваёй любві да роднага краю ад «вобразаў пакуты», якімі так багата была Беларусь і пяўцом якіх ён быў. Часцей за ўсё ён спалучаў сваю любоў да роднага краю з палкім жаданнем свабоды. Вышаўшы з турмы, ён пісаў:

Я тут вырас, тут і згіну,
А разораў тых не кіну,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Дзе мне шчасце не даецца,
Бо я сэрцам веру ў тое,
Што наш засеў ў полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Ўсё няшчасце векавое.

Колас вышаў з турмы ў 1911 годзе. Дзверы школы перад ім, як удзельнікам рэвалюцыі, былі зачынены. Беларускі друк за гады рэакцыі значна паправеў і шукаў пагаднення з царызмам, пасільна дапамагаючы апошняму ў правядзенні сталыпінскай хутарызацыі. Сябры, якія засталіся на волі, рэдка ўспаміналі свае «рэвалюцыйныя» заслугі, стараючыся, каб другія ўспаміналі пра іх яшчэ радзей. Вёска жыла, як і раней, у галечы і голадзе. Гэта навеяла Коласу рад прасякнутых цяжкім настроем вершаў.

Аднак, пачынаючы з 1912 года, пасля Ленскага расстрэлу, які выклікаў хвалю забастовак па ўсёй Расіі, Колас усёй душой вітаў надыходзячую навальніцу, і ў яго паэзіі зноў загучэлі матывы 1905 года:

Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца.

У гэты час ён многа працуе над сваім вялікім творам—паэмай «Новая зямля», якую пачаў яшчэ ў турме. У гэтай паэме ён задаўся мэтай паказаць жыццё беларускага селяніна ад яго дзіцячых год да смерці. Асноўнай канвой паэмы з'явіліся яго ўласныя дзіцячыя гады і лёс яго сям'і. Прычым Колас узяўся за свой буйны твор тады, калі ён дасягнуў вялікага майстэрства ў паэзіі. Таму гэты твор стаў класічным творам у беларускай літаратуры. Ён, як ніводзін другі твор, дае шырокую і поўнакроўную карціну жыцця селяніна-беларуса перад рэвалюцыяй, з яго радасцямі і надзеямі, з яго цягай да зямлі і марамі аб ёй. І хаця Колас не ўзняўся над гэтымі марамі, каб паказаць правільны выхад з беззямелля, а поўнасцю і да канца ішоў разам са сваімі героямі—аж да магілы Міхала, які так і не дабіўся сваёй зямлі,—гэтая паэма Коласа застанецца ў гісторыі беларускай літаратуры адным з

буйнейшых мастацкіх твораў, праўдзіва адлюстроўваючых вялікі кавалак жыцця, таксама, як скажам у рускай літаратуры «Еўгеній Онегін» Пушкіна або «Герой нашага часу» Лермантава.

Вайна 1914 года спыніла творчую работу Коласа. Ён быў прызван у армію, накіраван у ваенную школу і выпушчан прапаршчыкам у запасны полк. Трэба было мець галаву Нікалая II і яго паліцэйскіх чыноўнікаў, каб думаць, што Колас будзе верным абаронцам «цара і айчыны», якую ён лічыў турмой народаў. Вершы яго гэтага часу яскрава паказваюць, што ён быў далёкі ад патрыятычнага чаду, які ахапіў некаторыя колы інтэлігенцыі. Яго думкі былі прыкованы да таго, як

...гібеў і гінуў люд,  
Гібеў набытак ўсяго краю,  
І пакаленняў гінуў труд,  
І бег народ, бы ў час паморку,  
Закрыўшы вочы, ў белы свет.

Ён запытваў каінаў-правіцеляў царскай Расіі, за што вядзецца гэтая братазабойчая вайна.

Вы, што селі ўгары, як вас, каты, назваць?  
Не шкада вам нявінных людцоў,  
Самадурства сваё вы гатовы купляць  
Міліёнамі нашых галоў.

Колас прысвячае гэтай тэме рад сваіх вершаў, поўных спачування народу, гору салдатак, поўных праклящця тым, хто зацеяў вайну. Сярод салдат і ніжэйшага афіцэрства ён вядзе агітацыю супроць вайны, супроць бяздарнага камандавання. Хвароба дапамагла яму дэмабілізавацца з арміі, і ён паехаў да сваёй сям'і, якая выехала ў бежанства на Кур-

шчыну, і застаўся там настаўнічаць аж да 1921 года. У гэтыя гады ён заканчваў сваю паэму «Новая зямля» і пісаў новую паэму—«Сымон Музыка».

Першыя гады свайго знаходжання на радзіме пасля царскай арміі Колас аддаў заканчванню раней пачатых твораў і збіранню сваёй раскіданай дарэвалюцыйнай творчасці, частка якой так і не магла ўбачыць свету пры царскім ладзе. У 1922 годзе вышла другая кніжка яго вершаў—«Водгулле» (першая—«Песні жальбы»—вышла ў 1910 годзе) і трэцяя кніга апавяданняў—«Казкі жыцця» (першая кніжка апавяданняў вышла ў 1912 годзе, другая—«Родныя з'явы»—у 1914 годзе). У 1923 годзе вышла аповесць «У палескай глушы». К 1925 году паэту ўдалося аднавіць і выдаць украдзеную ў яго ў дарозе паэму «Сымон музыка». За гады 1925—1926 вышлі тры кніжкі апавяданняў—«Крок за крокам», «У ціхай вадзе», «На рубяжы» і аповесць «На прасторах жыцця». Такім чынам, і гэты перыяд у жыцці Коласа быў напоўнен вялікай творчай работай. У працэсе гэтай работы, у працэсе непасрэднага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве Коласу ясней і ясней станавілася, якую вялікую справу робяць на Беларусі совецкая ўлада і комуністычная партыя, ясней і ясней станавіліся перспектывы соцыялістычнай перабудовы гаспадаркі і культуры. Ён часта параўноўваў новае, створанае совецкай уладай у БССР жыццё з жыццём у Заходняй Беларусі, якая стагнала пад пятой польскіх акупантаў. Гневам і нянавісцю да польскіх драпежнікаў былі прасякнуты тады яго вершы. Ён заклікае ўсіх «чулых сэрцам» працаваць на карысць народа, каб аддаць доўг працоўным, якія ўскармілі і ўспаілі сваю інтэлігенцыю. Ён удумліва прыглядаецца да новага, што нараджаецца ў вёсцы, у

тым ліку да вясковага комсамола, і адлюстроўвае гэта ў сваіх творах.

І чым далей мы адыходзілі ад аднаўленчага перыяда, чым ясней вырысоўваліся перспектывы гіганцкага будаўніцтва, тым больш упэўнена, па-новаму гучэла ліра паэта. На працягу доўгіх год ён працуе над паэмай «На шляхох волі», у якой імкнецца адлюстраваць Вялікую соцыялістычную рэволюцыю на Беларусі, над п'есай «Вайна»—з часоў імперыялістычнай вайны і лютаўскай рэволюцыі. У творы «Адшчапенец» і радзе вершаў ён малюе калектывізацыю. Ён вяртаецца да перыяда барацьбы з польскай акупацыяй у аповесці «Дрыгва», у п'есе «У пушчах Палесся». Поруч з гэтым ён піша лірычныя вершы, у якіх стварае вобраз новай Беларусі, новага, шчаслівага жыцця. Як і Янка Купала, ён часта ў пачатку верша падае карціны старой Беларусі, каб яшчэ ярчэйшай зрабіць карціну новай, Совецкай Беларусі.

Адзванілі званы на званіцах,
І збуцвелі, паніклі крыжы—
Зніклі цемры, імжы—
Новы край тут паўстаў з навальніцы.
Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння,
Разагнуўся працоўны твой люд!

Цікава, што для адлюстравання новых пачуццяў, новых пейзажаў, новых людзей Колас шукае і новых паэтычных форм. Ён нібы падбірае новую музыку для свайго новага, радаснага верша («Будзьце чуйны», «Учора і сёння»), рытміка яго вершаў адыходзіць ад традыцыйнай аднастайнасці, становіцца больш разнастайнай, павялічваецца колькасць паўтораў, спалучэнняў, эпітэтаў, узмацняючых і замацоўваючых уражанне (напрыклад «цёмнага бязволля, жудкага бязвыйсця», «вольныя пуціны, сонечныя далі, без канца разгон»). Часцей пачынаюць сустракацца метафары і

спалучэнні процілеглых вобразаў, якія спыняюць увагу чытача і больш вобразна перадаюць думку і пачуцці паэта:

Бо вясна гучыць мне
І ў пажоўклым лісці.

Бытавыя словы і выразы, часамі з адценнем лёгкага юмару, уплятаюцца ў паэтычную мову, садзейнічаючы набліжэнню паэзіі да мовы самых шырокіх мас. Пейзажы Коласа становяцца светлымі, пранізанымі сонечнымі праменнямі. Не ніцая лаза і балота, а шырокае калгаснае поле са спелым збожжам з'яўляецца аб'ектам гэтых пейзажаў. Не адзінокая ігруша і нізкі чэзлы ялінец, а паважныя развесістыя дубы часцей пападаюць у поле яго зроку, як сведкі магутнасці абноўленага жыцця, як паказчыкі ўпэўненасці і сілы новага чалавека.

У вершы «На новай зямлі», які з'яўляецца своеасаблівай новай канцоўкай яго паэмы «Новая зямля», Колас ідзе па калгасных прасторах, несучы ў сабе «пачуццяў многа і ясных думак чараду». Ён бачыць, як

Цвітуць палі ў адзенні новым,
Гадуюць новыя сады.
І нават вецер з-пад дубровы
Шуміць на новыя лады.

Ён ахвотна адзначае ў сельскім пейзажы новыя з'явы: і гул срэбранай крыланкі-самалёта, і тое, як

... лічыць час калгасным сёлам
Гудок напевам маладым.

Колас у беларускай паэзіі з'яўляецца непраўзыйдзеным пейзажыстам. Вазьміце яго пейзажны верш «Пасля зімы». Кісцю сапраўднага мастака Колас замалёўвае і «прэлае лісце сярод раўчавін—бяздушнай зімы недаедкі», і тое, як

Сям-там засохлі раслін цыбуры,
Схіліліся мёртва над долам,

Ходзяць па полю сіроты-вятры,
К зямлі прыпадаючы чолам.

Колас падбірае такія дэталі, якія-б былі звязаны з цэлым радам асацыяцый, давалі-б магчымасць думцы дамалёўваць астатні пейзаж, якія-б як мага выразней перадавалі пачуцці чалавека. Таму ў яго пейзажах заўсёды многа прасторы, адчуваецца перспектыва, але разам з тым дэталі пейзажа акрэслены ярка, пададзены скупа і да месца. Для прыкладу спынімся на двух строфах з верша «Мой дом».

Унь там рачулка срэбрам літым
Бяжыць па жолабе размытым
І цэлы свет жыцця нясе.
А луг зялёным аксамітам,
Вянкамі кветак апавітым,
Разлёгся ў роскашы-красе.
Дубы, сябры маёй самоты,
У высі неба мкнуць узлёты,
Сукі раскінуўшы вакол.
А колькі згоды і пяшчоты
У тых пясках, што пазалотай
Ускрай баркоў ляглі на дол!
Як многа волі і разгону!

Увесь пейзаж, як бачыце, складаецца з трох абразкоў: рачулкі на лугу, дубоў і пяскоў над баркамі. Але ў ім усе характэрныя рысы беларускага пейзажа, хаця пададзены яны скупа, з вялікім адборам. З агульнага пейзажа больш ярка выдзяляюцца дэталі: размытае (відаць, вясенняй паводкай) рэчышча, вянкі кветак на зялёным аксаміце луга (іх больш каля ракі—таму ўжыта слова «апавітым»), сукі дубоў (яны чарнеюць у зеляніне і кідаюцца ў вочы), золата пяскоў (далёка на гарызонце, у перспектыве). Гэтыя дэталі і асацыяцыі (частка іх заключана намі ў дужкі) робяць пейзаж запамінаючымся, эмацыянальным. Кожны абразок разам з тым нясе частку настрою паэта: жыццерадаснасці, пяшчотных адносін да на-

вакольнага, уздымнай радасці. І ўсім гэтым рысуецца чалавек, які вышаў гаспадаром на прасторы роднай расцвіўшай зямлі, поўны спакойнай і ўпэўненай радасці за яе і сваё шчасце, за паўнату самога жыцця.

Параўнайце два пейзажныя вершы Коласа—«На крыжовых дарогах», напісаны ў 1911 годзе, і «Вусценскі грудок»—у 1938 годзе:

Я стаю і аглядаю
Горак рад убогі,
А куды ісці—не знаю,
Не ўлаўлю дарогі.
Вечар цёмны, бездарадны
Крочыць з-пад нізіны.
Хоць-бы голас дзе ўспагадны,
Хоць-бы гук адзіны!

Такі пейзаж бачыў Колас у старой Беларусі, такі настрой ахопліваў яго, кроўна звязанага з жыццём і лёсам працоўных яе вёсак у дарэволюцыйны час.

А вось урыўкі з верша, напісанага праз 29 год:

І трактар дзесь з-за Балачанкі,
І гром сталёвае крыланкі,
І спеў дзявочы з Беразянкі!

— усё гаворыць аб бурным росквіце жыцця, а перад вачыма паэта разляглíся не ўбогія прыгоркі з палыновымі межамі, а

Прастор і скарб калгаснае зямл

Пейзажная лірыка Коласа была заўсёды звязана з палітычнымі задачамі, якія ён ставіў перад сваёй паэзіяй. Ён застаўся верным гэтаму прынцыпу і зараз, бо застаўся верным асноўнаму прынцыпу літаратуры—быць люстэркам жыцця, хаця і своеасаблівым люстэркам, творча кандэнсіруючым яго з'явы ў мэтах служэння народу, класу. І як калісьці да рэволюцыі ў свае пейзажныя вершы Колас устаўляў радкі, сказаныя непасрэдна ад свайго імені, з падкрэсліваннем

таго настрою, якім выклікан гэты верш, так і ў пасля-кастрычніцкія вершы ён устаўляе радкі, прадстаўляючыя фармуліроўку настрою, фармуліроўку палітычнай нагрузкі пейзажнага верша. Гэта не зніжае, а ўзмацняе эмацыянальнасць верша, дапаўняе пейзаж вобразам чалавека, прымушае глядзець на пейзаж не як на карціну або здымак, а як на кавалак жыцця, якое бачыш жывым, хвалюючым, сапраўдным. Часцей за ўсё асабістыя выказванні Коласа з'яўляюцца выказваннем удзячнасці таму грамадска-палітычнаму ладу, які ператварыў забітую краіну ў край квітнеючы і багаты. Для прыкладу можна прывесці канцоўку верша «На новай зямлі»:

Сышлі навекі з доляй злою
Галеча, сціск, зямлі палон,
Бо сцяг над новаю зямлёю
Трымае сталінскі закон.

Колас у дарэвалюцыйнай літаратуры быў вялікім майстрам бытавой зарысоўкі і жанравай сцэнкі. Варта ўспомніць хаця-б яго кароткі верш «У судзе», дзе селянін, пазбаўлены царскім судом правоў, просіць зняць гэтыя правы і з свайго сына, і верш «Маці». Такім-жа вялікім майстрам ён застаўся і ў пасля-рэвалюцыйнай беларускай літаратуры. Варта ўспомніць хаця-б такія вершы, як «Дзед і ўнук», дзе падана размова дзеда з сваім малым унукам з поваду таго, што дзед едзе на выбары, або верш «Шчаслівая хвіліна», дзе поўна, сакавіта і многафарбава намалявана маладая сялянка-маці, размаўляючая з сваім маленькім сынам, несучы яго з дзіцячых ясляў. Колькі святла, колькі радасці, колькі пяшчотнасці ў гэтым простым малюнку! Як не падобен ён на сумны малюнак мацеры, адзінока прадучай кудзелю ў зімовую ноч і думаючай бясконцыя думкі і аб мужыку, які загінуў у няроўнай барацьбе з ня-

доляй і беднасцю, і аб сыне, замураваным у турэмную камеру за спробу скінуць ярмо з плячэй народа. Там—зімовая ветраная ноч, тут—залітае сонцам жніўнае поле, там—бесперспектыўныя думы, тут—цудоўныя мары аб сыне-лётчыку, які будзе ляцець над полем, дзе жне маці, і скіне ёй радасную вестку аб сваім шчасці, аб сваіх поспехах, там—страшныя абцугі голаду і холаду, тут—шчаслівае, заможнае, культурнае калгаснае жыццё разняволенай жанчыны і яе дзяцей. Лёс жанчыны-сялянкі заўсёды прыкоўваў да сябе ўвагу дэмакратычных пісьменнікаў мінулага. І Некрасаў, і Шэўчэнка, і Купала неаднаразова звярталіся да гэтага вобраза. Яны з вялікай любоўю і з вялікай пашанай малявалі і вобраз сялянскай дзяўчыны, і вобраз бязмужняй маці, і вобраз удавы, якая мужна б'ецца з жаночай нядоляй і сацыяльнымі ўмовамі, каб вывесці ў свет сваіх сірот. Коласу належыць адно з першых месц сярод мастакоў, якія прадоўжылі традыцыі «Рускіх жанчын» («Дзекабрыстаў») Некрасава, мастакоў, усё больш і больш увязваючых асабісты лёс жанчыны з яе ўдзелам у рэвалюцыйнай барацьбе, у барацьбе за агульнае шчасце («Шчаслівыя жанчыны» «Радасць», «Шчаслівая хвіліна» і інш.). Гэтая тэма намячаецца яшчэ ў вершы «Маці», але поўнага развіцця яна дасягнула ў п'есе «Вайна вайне», у аповесці «Дрыгва», у п'есе «У пушчах Палесся» ў вобразе Аўгінні і ў шматлікіх лірычных вершах Коласа, прысвечаных совецкай жанчыне. Колас радуецца, што адышла ў нябыт цяжкая доля жанчыны-сялянкі.

Я не чую песень жалю,
Смутку дзён ліхіх,
Што ў жніво жанкі спявалі
На шнурах пустых.
Я не чую ў полі плачу
Стомленых дзяцей,
Млявых постацей не бачу
Паднявольных жней.

Дарэчы, звярніце ўвагу на такую асаблівасць паэзіі Коласа, як падбор эмацыянальна насычаных, спецыяльна адабраных і пастаўленых у парадку ўзмацнення, «нагнятання» эпітэтаў. Такі прыём ён часта скарыстоўвае ў сваіх лепшых вершах. Гэта не абцяжарвае радок, пакідае яго празрыстым і простым, аднак робіць вялікае ўражанне на чытача.

У сваіх вершах пасля рэвалюцыі Колас звяртаецца да цяжкай долі жанчыны ў мінулым толькі ў двух выпадках: або калі яму патрэбна адцяніць карцінай мінулага светлыя бакі сучаснасці, або калі ён піша пра Заходнюю Беларусь. Наогул Заходняя Беларусь— частая тэма ў Якуба Коласа. У 1927 годзе ён піша спецыяльны верш «Братам Заходняй Беларусі», дзе высмейвае вялікадзяржаўную ідэю польскіх паноў «з пакручанымі мазгамі», якія мараць аб Польшчы «ад мора і да мора», і заклікае беларускі народ Заходняй Беларусі ўпарта змагацца за сваё вызваленне з цвёрдай надзеяй на падтрымку з боку Савецкага Саюза.

Браты, мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панах.

У 1930 годзе ў вершы «Краіне Саветаў», паказаўшы ўсе дасягненні свабоднага савецкага народа, Колас з вялікай страсцю звяртаецца да Заходняй Беларусі:

А калі-ж ты, калі, Занямонне,
Адсвяткуеш свой дзень, як мы тут?

Надзвычай цёплымі і ўзнёслымі радкамі прывітаў народны паэт рэспублікі вызваленне заходніх братоў-беларусаў:

На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою!

Многа новых, шчаслівых дарог
Рассцілае жыццё прад табою.

Працоўныя былой Заходняй Беларусі ацанілі яднанне народнага паэта з імі і ў першыя-ж выбары паслалі яго сваім дэпутатам у Вярхоўны Совет БССР ад той мясцовасці, дзе ён нарадзіўся і дзе правёў свае юнацкія гады.

Колас, як і ўсякі буйны мастак, ніколі не быў толькі вузканацыянальным паэтам, не гледзячы на тое, што ён больш за ўсіх іншых нашых пісьменнікаў звязан з беларускай прыродай, з беларускай вёскай, з беларускай народнай творчасцю. Ужо з першых радкоў сваіх ён звязваў сваю творчасць з творчасцю буйнейшых пісьменнікаў-дэмакратаў рускага і украінскага народа. Матывы яго творчасці былі неразрыўна звязаны з перадавой рускай антыцарысцкай літаратурай 1905—1912 гг. З царом, паліцыяй і багачамі ён змагаўся як адзін з салдат агульнарасійскай рэвалюцыйна-дэмакратычнай арміі. Яшчэ больш гэта адчуваецца ў наш совецкі час. У сваіх вершах, прысвечаных соцыялістычнаму будаўніцтву, ён з вялікім натхненнем піша і пра Днепрагрэс, і пра пераможаныя пяскі Кара-Кумаў, і пра ільды далёкай Поўначы, і пра Магнітабуд. Ён славіць плеяды герояў Совецкага Саюза—«сталінскім сонцам сагрэтых»—за ўсе іх гераічныя ўчынкі ва ўсіх кутках нашай агульнай радзімы—Совецкага Саюза. Ён радасна вітае яднанне нацыянальных культур і літаратур і піша прачулыя, поўныя інтэрнацыяналізма вершы, прысвечаныя творчасці Руставелі і творчасці двух сучасных карыфеяў брацкіх літаратур—Джамбула і Купалы. Сталінская дружба народаў—цэмент магутнасці і залог непераможнасці Совецкага Саюза—натхняе паэта, і ён пры-

свячае ёй рад сваіх, прасякнутых глыбокім пачуццем, вершаў.

Нас дружба народаў навекі злучыла,
У нашым яднанні—мы грозная сіла,
Няма для яе перашкод.
Жыві-ж ты, з'яднанасць, і дзень златакудры,
Жыві-ж, правадыр наш бясстрашны і мудры,
Жыві ты, совецкі народ!

Гарачы совецкі патрыятызм пранізвае ўсю паслярэволюцыйную творчасць Коласа. Ён будзіць у народзе гордасць дасягненнямі соцыялістычнага будаўніцтва, будзіць упэўненасць і веру ў сілы раскутага народа. Гэта з'яўляецца простым лагічным завяршэннем яго звароту да народа «на грозных межах часаў пераходных»—часоў рэволюцыі 1905—1906 гг.:

Ці-ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці-ж нам сілы бог не даў?..
... Выйдзем разам да работы
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

Колас верыў у сілы народа і тады, калі значная частка інтэлігенцыі адышла ад народа—у гады рэакцыі 1907—1912 гг. Цяпер-жа ён непадзельна зліўся з народам-пераможцам у соцыялістычным будаўніцтве. І яго песні аб Чырвонай Арміі, яго грозная перасцярога тым, хто марыць зноў закаваць вольныя совецкія народы, ёсць выражэнне пачуццяў самога народа. Яго вершы аб палітычнай пільнасці, яго адказы шматлікім знешнім і ўнутраным ворагам краіны Советаў—ёсць гімны совецкаму патрыятызму, зброя народа ў барацьбе за канчатковую перамогу соцыялізма ва ўсім свеце. Удзельнічаючы ў калектыўных творах—

«Пісьмо беларускага народа Вялікаму Сталіну», «Пісьмо інтэлігенцыі г. Мінска таварышу Сталіну»—і ў радзе іншых вершаў Колас глыбока выразіў патрыятычныя пачуцці беларускага народа.

Калісьці, у 1916 годзе, адгукаючыся на лермантаўскае «Люблю отчизну я, но странною любовью», Колас пісаў:

Край лясоў, край балот
І туманаў гнілых,
Хоць і бедна ў табе,
Хоць у лозах тваіх
Вецер жудасна ўвосень шуміць,
А ўсё-ж міл ты мне. Чым?—
Я не ведаю сам.

Цяпер Колас ведае, за што ён любіць свой край, сваю вялікую радзіму. Ён любіць яе за шчаслівае жыццё народа, за радасную працу, за магутнасць, за тое, што яна стала перадавой, прыкладнай для ўсіх народаў. І ў сваім вядомым вершы «Клятва» Якуб Колас перадае ў паэтычнай форме прысягу—клятву чырвонаармейца ахоўваць і абараняць гэтую радзіму да апошняй каплі крыві.

Думка Коласа і яго паэтычнае слова часта звяртаюцца да чалавека, які натхняе ўвесь совецкі народ на подвігі, які вядзе яго да перамог—да таварыша Сталіна. Самыя лепшыя словы і вобразы ўкладвае паэт у гэтыя вершы.

Між нас жыве геній,
Як сонца, як зоры,
Як мудрасць вялікай зямлі,
І сее праменні,
Агні непакоры,
Каб людзі шчасліва жылі.

У радзе вершаў, дзе Колас аглядае дасягненні Совецкага Саюза, ён падкрэслівае кіруючую мудрую

дзейнасць таварыша Сталіна, якая арганізоўвае гэтыя дасягненні, згуртоўвае энергію мас і накіроўвае яе па шляху перамог. Колас прысвяціў натхнёныя радкі Сталінскай Канстытуцыі.

Ў нашым сэрцы гэта імя
І на вуснах нашых Сталін—
Свет закон яго успрыме,
Як людскіх свабод скрыжалі.

Чырвонай ніткай праз усе вершы, прысвечаныя таварышу Сталіну, праходзіць думка аб яднанні правадыра і народа, аб вялікай любві і адданасці народа свайму правадыру. У гэтых радках знайшло сваё ўваплашчэнне і паэтава асабістае, і ўсенароднае пачуццё да лепшага друга, настаўніка і бацькі беларускага народа—Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна. Глыбокай народнай любоўю дышуць таксама вершы Коласа, прысвечаныя бліжэйшым саратнікам таварыша Сталіна, напрыклад таварышу Варашылаву («Парад», «Да 20-ай гадавіны», «Дзед і ўнук»).

---

Вось мы прайшлі з Коласам яго багатае жыццё. Мы бачылі паэта ў натоўпе малазямельных сялян вёскі, трапным словам растлумачваючага народу, што яму не трэба ні цара, ні пана, ні бога; мы бачылі яго, калі ён заклікаў на расправу з панамі; бачылі яго плакаўшым над горкай доляй жанчыны, бачылі ў глухую ноч у астрозе, калі ён з-за крат звяртаўся да сваіх былых аднадумцаў і спяваў ім «вечны пакой» за іх здраду справе рэвалюцыі; мы бачылі яго пасля турмы на скрыжаванні дарог у начной цемені, калі ён не ведаў, куды ісці; мы бачылі яго праклінаючым імперыя-

лістычную вайну; мы бачылі яго радасна вітаючым вольную Совецкую Беларусь, бачылі яго актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва, ахопленым радасцю новага, поўнакроўнага жыцця. Перад намі прайшло жыццё паэта-барацьбіта, цесна звязанага з народнымі масамі, за справу якіх ён тры гады адпакутваў у царскім астрозе і за адданую работу на карысць якіх пролетарская рэволюцыя, партыя і совецкая ўлада ўзнагародзілі яго ордэнам Леніна і выбралі акадэмікам і дэпутатам соцыялістычнага парламента.

Перад намі прайшло жыццё чалавека, які спалучае высокаплённую паэтычную творчасць з вялікай грамадскай работай, будучы віцэ-прэзідэнтам Акадэміі Навук, членам прэзідыума Саюза совецкіх пісьменнікаў БССР, членам прэзідыума Мінскага абласнога Совета дэпутатаў працоўных і дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР.

І перад намі ўстала духоўнае аблічча паэта, які бачыў сваё прызванне ў тым, каб быць пяўцом «вобразаў пакуты» роднага краю, а стаў пяўцом яго радасці і шчасця. У 1910 годзе, пасля самай гарачай пары сваёй барацьбы за светлую долю народа, на просьбы сваіх чытачоў:

Ты злажы нам песню волі,
Песняй шчасця залівайся,
Ціхім спевам нівы ў полі
У струнах сэрца адклікайся,

ён адказваў:

Ой вы, людзі, няма-ж волі,
Скуты мыслі ланцугамі,
Пусты нашы нівы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі.

Ці-ж я сэрцам не балею?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?
Я спяваю, як умею—
Я пра радасць пецць не здаўся.

Іменна таму, што ён хварэў сэрцам за пакуты народа, што яму «нялёгка смутак даўся», ён і апяваў гора народа, але апяваў яго з мэтай актыўнай.

Няхай плачам у той далі
Песня разальецца,
Каб усе на свеце зналі,
Як нам тут жывецца.

Ён бачыў сваё прызванне ў тым, каб быць рэхам народа. Перад самой рэвалюцыяй—у вершы «Водгулле» ён прымае пушкінскую трактоўку ролі паэта:

Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне над лесам пярун,—
Усё водгук знаходзіць у вольных абшарах,
Усё іх дакранаецца струн.

А ты, калі гора каго напаткае
Ці жальба пачуецца, плач,
Або запануе дзе крыўда ліхая,—
На ўсё адгукніся, адзнач.

Але ўжо ў гэтым вершы Колас ідзе далей у вызначэнні ролі паэта:

А радасць пачуеш, надзеі ўзаўюцца,
Каб добрыя весці падаць,
Няхай тады струны твае засмяюцца
І песняю шчасця гучаць.

Гэта былі першыя радасныя радкі ў паэзіі Коласа. Жыццё паставіла паэта ў самы цэнтр барацьбы, але ўжо на баку пераможнага пралетарыята, і паэт убачыў сваё новае прызванне. У 1930 годзе—у юбілейным вершы Янку Купале—ён заклікае свайго сутаварыша па паэзіі і барацьбе спяваць новыя, радасныя песні і зваць да новых перамог. Так змяняўся ў самога Коласа погляд на сябе, як паэта, але адно засталося ў ім нязменным—сувязь з народам, разуменне

таго, што паэт—слуга народа. Гэта яшчэ і яшчэ раз апраўдвае яго званне народнага паэта. Але не толькі гэта. Непасрэдны ўдзел у барацьбе народа за сваё вызваленне, у барацьбе за пабудову новага жыцця, ўдзел высокамастацкім словам, якое адлюстроўвае думкі і жаданні самых шырокіх мас народа,—гэта робіць Коласа народным паэтам. Народным паэтам робіць Коласа і тое, што ў радзе сваіх паэтычных і празаічных твораў ён стварыў незабыўныя вобразы прадстаўнікоў беларускага народа—дзеда Талаша і Аўгінні ў «Дрыгве», селяніна-бедняка, які змагаецца супроць паноў і цара, у лірычных і палітычных вершах 1905—1907 гг., Міхала ў «Новай Зямлі», таленавітага юнака з народа Сымона Музыкі, шчаслівага новага чалавека ў палітычнай паэзіі апошніх год. У гэтых вобразах Колас увасобіў найбольш характэрныя рысы беларускага народа: яго свабодалюб'е і нянавісць да паноў-эксплаататараў, яго працавітасць, прыродны юмар і розум, яго патрыятызм, благароднасць дум і ўчынкаў у параўнанні з думкамі і ўчынкамі яго класавых ворагаў, спачуванне чужому гору і жаданне актыўна памагчы гаротным, дружбу і жыццерадаснасць, не гледзячы на векавы ўціск і гора. Гэта таксама якасці, якія робяць паэзію Коласа народнай у самым шырокім значэнні гэтага слова. Блізкасць твораў Коласа да народнага слова, шырокае творчае скарыстанне лепшых набыткаў народнай песні, народнай казкі, упартая работа над стварэннем і развіццём літаратурнай мовы, над стварэннем самой беларускай літаратуры, якая-б стала ў адзін рад з лепшымі літаратурамі брацкіх совецкіх народаў, узбагачала ўсесаюзную літаратуру,—усё гэта зрабіла Якуба Коласа народным паэтам, класікам беларускай літаратуры, поруч з Янкам Купалам.

Часта нашы крытыкі і літаратары, на аснове падабенства палітычных умоў, у якіх жылі і развіваліся гэ-

тыя два паэты, не знаходзяць розніцы ў іх творчасці. Гэта памылка, прывітая нам вульгарна-соцыялагізатарскай крытыкай. У сапраўднасці Янка Купала і Якуб Колас—два глыбока індывідуальныя паэты, з рознымі своеасаблівымі паэтычнымі прыёмамі, з сваёй лексікай, сваімі любімымі вобразамі. Калі Янка Купала часцей звяртаецца да трыбуннага, звінячага і адточанага да бляску крылатага слова, то Якуб Колас, як паэт-масавік, менш клапоціцца аб прыгожасці і больш дбае аб даходчывасці і прастаце. І калі іх словы—аднолькавы па сіле свайго ўплыву на масы, па сваёй мастацкасці, то гэта паказвае толькі тое, што яны абодва—таленавітыя паэты нашага народа. Паэзія Янкі Купалы мае сваімі вытокамі пераважна лірычныя, узнёслыя народныя песні, паэзія Якуба Коласа—песні бытавыя, з вялікай сэнсавай, рацыяналістычнай нагрузкай. І калі ўсё-ж абодва гэтыя тыпы песні даюць магчымасць паэтам перадаць свае пачуцці ў высока-мастацкай форме, то гэта ніяк не злівае абодвух паэтаў нават у вытоках іх творчасці. Янка Купала больш метафарычны, часцей звяртаецца да гіпербалізацыі вобраза, да шырокіх абагульненняў, чым Якуб Колас. Якуб Колас аддае перавагу простым народным параўнанням, свежым і эмацыянальна-насычаным эпітэтам, з дапамогай якіх дасягае высокай выразнасці сваёй мовы, дакладнай перадачы сваіх пачуццяў, рэльефнасці мастацкіх вобразаў. Янка Купала дасягнуў сапраўдных мастацкіх высот праз перадачу непасрэдных пачуццяў чалавека. Якуб Колас дасягае таго-ж апасрэдстваванна—пры дапамозе пейзажа, бытавой зарысоўкі, па-народнаму пададзенага дыялага, праз індывідуалізацыю мовы сваіх герояў. Гэтая невялікая паралель, не прэтэндуючая ні ў якім разе на тое, што яна вычэрпвае нават асноўныя ў розніцы паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа, усё-ж указвае шляхі, якімі трэба ісці, шукаючы гэтай розніцы. Пада-

бенства-ж паэтаў толькі ў агульнасці іх мэт, у іх гарачай любві да народа і ў іх заслугах перад беларускай і ўсесаюзнай літаратурай. А гэтыя заслугі, як бачыце, вялікія. І народ ніколі іх не забудзе, пакуль будзе існаваць беларуская літаратура, заснавальнікамі якой—у яе сучасных формах—па праву лічацца Янка Купала і Якуб Колас.

*М. Клімковіч*



Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо, як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Я-б смяяўся, жартаваў-бы,
Каб вас чуць развесяліць,
Ды, на жыцце як паглядзіш,
Сэрца болем зашчыміць.

Нешчаслівa наша доля:
Нам нічога не дала.
Не шукайце кветак ў полі,
Бо вясна к нам не прышла.

1904

## НАШ РОДНЫ КРАЙ

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балота ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

А туманы, як пялёнка!
Засцілаюць лес і гай.
Ой ты, бедная старонка!
Ой, забыты богам край!

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе—льецца пот.

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш—сэрца забаліць.
На дварэ—паленне, цёскі,
Куча сметніку ляжыць.

Крыж збуцвелы пры дарозе,
Кучка топаляў сухіх...
Сцішна, нудна, бы ў астрозе
Ці на могілках якіх.

А як песня панясецца—
Колькі ў песні той нуды!
Уцякаў-бы, бег, здаецца,
Сам не ведаеш куды.

Край наш родны, бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата,
Сумны ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната.

1906

## ВОРАГАМ

Багачы і панства,
Нашы «дабрадзеі»!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І на грозных межах
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

«Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

І за што, скажыце,
Палкамі нас білі,
Секлі-каталі,
Голадам марылі?

Ласкаю-ж чыёю
І з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?

Усё ад нас забралі,
А што нам далі вы?
Чые нудна ў полі
Так марнеюць нівы?

Вузенькаю ніццю
Чые йдуць палоскі?
У чыім то жыце
Многа так бярозкі?

Каму адвялі вы
Пусташы, каменне?
Хто з свайго засеву
Не збярэ насення?

Чые гумны, хаты
Гнуцца сіратою?
Чые слёзы льюцца
Кожнаю парою?

І чыя скацінка
Сохне ў пустым полі?
І, як гаспадар іх,
Гіне у няволі?

Чыя песня-скарга
Ў неба йдзе дакорам,
К месяцу і сонцу
І к далёкім зорам?»

Багачы і панства
І вы ўсе, брадзягі,
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

1906

## БЕЛАРУСАМ

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палаткі
Жыцця новага вясна.

Ці-ж мы, хлопцы, рук не маем?
Ці-ж нам сілы бог не даў?
Ці-ж над родным нашым краем
Промень волі не бліпчаў?

Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!

1906

## КІНЬЦЕ СМУТАК

Што вы, хлопцы, пахмурнелі?
Ці каго вы пахавалі?
Ці няшчасце так здалела,
Што нуда апанавала?

Плюньце, хлопцы! заспявайма,
Каб аж вокны задрыжалі!
Ва ўсе грудзі загукайма,
Каб і думкі паўцякалі!

Ці-ж мы будзем вечна гнуцца,
Апускаць ў нядолі рукі?
Няхай слёзы больш не льюцца,
Няхай нас не знаюць мукі!

За работу жыва, жыва!
Каб нас доля не ўсчувала,
Каб не сохла наша ніва,
Каб нуда нас больш не гнала!

1907



## НАША ДОЛЯ

Наша доля нас не знае,
Жыцце наша—ноч і цьма.
Ўлетку жар нас данімае,
Цісне холадам зіма.

Не красуе наша ніва,
Луг не цешыць нам вачэй.
Гне к зямлі нас праца жыва,
Гоніць ў магілкі дзяцей.

Наша жыцце невясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абраслі.

Нашы слёзы нешчыслёны,
З нас крывавы льецца пот...
Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ!..

* * *

— Што, брат Грышка: папраўляйся,
Чутка ёсць—зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як-нібудзь.

— Эх, Мікола: што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць.

1907

## ПЛЫТНІКІ

Клунак за плячамі,
Згорбленыя спіны,—
Валіць чарадамі
Люд на сплаў віціны.

Босыя іх ногі,
Твар іх загарэлы,
Вопратка убога,
Чуць прыкрыты целы.

Ззаду ледзь ступае,
Хлеб вязе кабыла.
Нокае, гукае
На яе Кірыла...

Жарыць-скварыць сонца,
Ліст не скалыхнецца,
Горача бясконца,
Рагамі пот льецца.

Срэбрам адлівае,
Як люстэрка, Нёман,
Зранку не сціхае
Над вадою гоман.

Ад крыку, лаянкі
Аж дрыжыць паветра.
«На «барбару», Янка!
«Гартоль» бяры, Пётра!

Закідай шырыгу
Прысам папхні ў ліва!
Варушыся мігам!
Не спі ў шапку! жыва!

А заднік без толку
Бусаком махае.
Галаўнік Міколка
Бэсціць яго, лае.

Гнецца плыт дугою,
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.

На мель узагнала.
Крык, сярдзіты голас.
Порткі паскідалі,
Ўсе ў вадзе па пояс.

Бомы ўсе пабралі,
«Рразам, хлопцы, рразам!
Ну, яшчэ! што сталі?
Ну, яшчэ наляжам!»

Вецер загуляе—
Хвойнік, лозы гнуцца.
Плытнік спачывае,
Як сабака ў будцы.

Плытнік гнецца ў полі,
Мерзне ён у холад,
Ведае нядолю,
Ведае і голад.

Што-ж? бядота гоніць,
Толькі сілы траціш,
Толькі косці ломіць,
Як хваробу схваціш.

Эх ты, доля, доля!
Голад ты, галота!
Не свая тут воля,
Не свая ахвота.

1907

## ДАРОГА

Між палёў шырокіх,
Як змяя якая,
Цягнецца дарога,
Вузкая, крывая.

Наабапал грушы
Разрасліся ў полі,
Нізенькі яловец
Чэзне, бы ў няволі.

Тут мужык працуе,
Чорны ўвесь, як сажа.
Крыж на перасеках
Аб пакуце кажа.

Коціцца цялежка,
Б'ецца аб камение,
Гаратай на поле
Глядзіць ў задуменні...

Ой, дарога-сцежка,
Вузкая, крывая!
І ты, жыцце наша,
Ты, доля, такая!

1907

## НА ПРАДВЕСНІ

Эх, наперла ліха-гора:
Ні сяніны, ні зярна.
А тут снег яшчэ няскора
Згоніць цёплая вясна.

У кішэні ні грашынкі,
Хата поўная дзятвы!
Ні паленца, ні лучынкі—
Хоць у землю лезь жывы.

Папалілі, пераелі,—
Нічагутка, ані ў зуб!
Хлеба толькі да нядзелі,
На два разы ўсяго круп!

А даўгоў ты нахватаўся,
Таму дзесяць, таму пяць...
Ось дзе, Грышка, ты папаўся:
Чым ты будзеш аддаваць?

Эх, наперла ліха Грышку—
Рук няма за што зацяць!
Хіба вып'ем па кілішку—
Лягчэй будзе гараваць.

1907

## МУЖЫЧАЕ ЖЫЦЦЁ

Божа, божа, твая воля!
(Хоць і можа гэта грэх):
Што за жыцце, што за доля—
Проста плач бярэ і смех!

Ў хаце чорна, непрыбрана,
Парасяты пад палком,
Павуцінаю заткана
Столь і кут над абразом.

Дзеці ўстануць пасля ночы—
Крык, хоць вушы затыкай,
Дым з камінка лезе ў вочы,
Дзед сярдуе—ая-яй!

А як часам дзе збярэцца
Ў хаце з пару 'шчэ жанок,
Сварка тая не звядзецца—
Дзень грызуцца за гаршчок.

А ўмяшаюцца мужчыны,
Ну і пойдзе латата!
Паўплятаюцца ў чупрыны,
Рэдка стане барада.

Так ўвесь век пeратаўчэшся,
І няма таго дабра.
Покі жыць ты прыбярэшся—
Уміраць ужо пара.

1907

## НА РОСТАНКАХ

Ты скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

Не шумі ты, лес высокі,
Нудных песень не спявай,
Дзён шчаслівых, дзён далёкіх
Ты мне, лес, не ўспамінай!

Не відно мае дарогі—
Горы, лес, балоты, гразь...
Колькі смутку і трывогі
Ў гэты цяжкі, цёмны час!

Дзе-ж, дарога ты другая?
Я стаю адзін, адзін,
Ноч вакол ляжыць глухая,
Ці-ж то свет сышоўся ў клін?

Дык скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

1907

## МЕСЯЦ

Ціха месяц адзінокі
Ходзіць ў небе над зямлёю.
Неразгаданы, далёкі,
Што ты бачыш пад сабою?

Бачыш слёзы ты людскія,
Як з расою тэй ліюцца,
А ў тумане думкі злыя
Горкім плачам аддаюцца.

Як без хлеба і без долі
Працавіты люд наш гнецца...
Кінь ты жальбу нашу ў неба—
Няхай неба ўскалыхнецца.

**1907**

## МІКАЛАЮ II

Дзесяць год Мікола думаў,
І прыдумаў ён Думу.
Пасадзілі разам з панам
Янку, Грыца і Кузьму.

Пасядзелі нядзель з восем,
Узлаваўся Мікалай—
Дэпутатам даў па карку,
Ўзяў ды Думу разагнаў.

Да чаго-ж мы дажыліся!
Эх, падвёў ты нас, царок!
Каб табе даў бог на старасць
Лапці, торбу і мяшок.

Ані хлеба, ані солі,
Ні купіць нам, ні прадаць...
Эх, не вер цару ніколі—
Хоча зноў нас ашукаць.

1907

## ВЁСКА

Цесна збіты нашы хаты,
Як авечкі ў летні жар,—
Для агню тут корм багаты,
Як укінецца пажар.

Хлеўчык, пограб і гуменцы
Пад адзін зліліся плех,
Трэскі ўсаджаны ў акенцы,
Замест шкла—радняны мех.

Загародка пад аконнем,
Блісне кветка дзе-ні-дзе.
Зеллем глушыцца, драсённем
Мак, цыбулька на градзе.

Зелянеюць два-тры клёны,
Гляне ліпа дзе з-за хат,
Дзе-ні-дзе садок зялёны,
Нізкіх вішань чэзлы рад.

Граблі, сані пад страхою,
Колы, сошка, барана,
Кол з хваёвою мятлою
Ўбіты ў дол каля акна.

Многа тут гразі ў нягоду,
Многа пылу ў летні жар.
Тут дабра не бачыць зроду,
Тут марнее гаспадар.

Тут нуда жыве людская,
Прыпынілась гора тут,
Смерць дзяцей, хвароба злая
Тут знайшлі прытульны кут.

1908

## МУЖЫК

Я—мужычы сынок.
Ні двара, ні кала!
Поле—жоўты пясок,
Хата ў землю ўвайшла.

Не жыву, а гнію,
Прападаю, як мыш,—
Глянь на долю маю,
Глянь на цяжкі мой крыж!

Я балоты сушу,
Надрываю жывот,
Я за бесцэн кашу,
Рыю землю, як крот.

Ўсе вуглы і куты
Сваім целам я змёў,
Ссек і лес, і кусты,
І дарогі правёў.

Ды не езджу па іх,
А хаджу пехатой,
Ў рваных ботах старых,
Часцей босай нагой.

Збудаваў я палац,
Многа фабрык, мастоў.
Сам-жа голы, як бац—
Пары дзве рызманоў.

Пад аконнем не раз
Я з мяшэчкам хадзіў,
Міласціны у вас
Хрыстом-богам прасіў.

Мяне мучыць раса,
Мяне сонца пячэ,
А у песнях маіх
Сляза ціха цячэ.

Я па свеце хадзіў,
Косці ўсюды занёс,
Я на землю праліў
Многа слёз, многа слёз.

То не дуб у бары
Заскрыпеў, застагнаў,—
Гэта я без пары
Богу душу аддаў.

Нудна звоняць званы,
То мацней, то замруць.
Адзін дзяк ля труны—
Гэта гроб мой нясуць.

На магілцы маёй
Крыж трухлявы стаіць,
А над прахам касцей
Вольны вецер шуміць.

Я—мужычы сынок,
Я не маю дарог.
Мая школка—шынок,
Маё жыцце—астрог.

1908

## НАША СЯЛО

Між узгоркаў над ракою
Выглядае сіратою
Наша беднае сяло.
Убраў стрэхі мох калматы,
На́бак скрыўленыя хаты,
Як-бы ў дол яно ўвайшло.

І зліліся ў плех будынкі,
Ў шыбы ўсаджаны лучынкі.
Ці анучак цэлы жмут.
Спарахнела наша школа,
Згніў паркан увесь наўкола—
Школка горбіцца, як склют.

Збоку вербачкі крывыя,
Бы кабецінкі старыя,
Нуднай кучкаю стаяць.
Нёман ногі ім змывае,
Вецер голькі іх люляе,
Лісці жаласна шумяць.

На прыгорку ў аддаленні
Насып, крушнямі каменне,
Смутна крыжыкі стаяць.
А ўнізе, пад іх нагамі,
Спаласканыя слязамі,
Косці родныя ляжаць.

Плачуць ветры над магілай,
З песняй нуднай і пастылай
Пралятаючы удаль.
Як успомніш кут свой родны,
Кут закінуты, галодны,
Сціснe сэрца горкі жаль.

1908

## ЖНІВО

*(Сялянскім жанчынам)*

Рэдкае збожжа, травы палавіна,
Колас не гнецца зярном да зямлі.
Знаць, нешчаслівa была та часіна,
Як кідалі зерні сяўцы па раллі.

Вышлі на поле вось жнеі з сярпамі,
Ў лапцях лазовых, а хто без лапцей,
Ніва пустымі шуміць каласамі,
Ніва не цешыць жаночых вачэй.

Цяжка ўздыхнуўшы, збанкі пастаўлялі,
Клункі на межы паклалі жанкі.
Бабы старыя свой твар пажагналі,
Моўчкі за працу ўзяліся дзяўкі.

Горача ў полі. Эх, жар дакучае.
Праца марудна, бясконца цяжка!
Спіну і плечы ім боль адбірае,
Аж дзервянее у жнеек рука.

Збэрсана жыта, чапляецца колас,
Жменя нажата, разгнецца жняя,
Жыта паложыць на скручаны пояс...
Цяжкая, жнейка, работа твая!

Ціха на полі у поўдзень гарачы!
Хоць-бы дзе кусціка рэдзенькі цень.
Толькі ў калысцы плач чуеш дзіцячы,
Толькі над вухам звініць авадзень...

1908



Ўюцца думкі, томяць грудзі—
Волі хочацца і ім,—
Хочуць песняй стаць лагоднай,
Мілым дзіцяткам маім.

Цяжка з імі жыць замкнута,
У начной хаваць цішы,
Цесна думкам, цесна бедным,
Хочуць выліцца з душы.

Ўюцца думкі смутным роем,
Хочуць выбіцца на свет.
Дык ляціце, сэрца дзеці,
На паперку кіньце след!

1908

## МАЦІ

Непрыветна цераз вокны
Ночка пазірае.
Ціха ў хаце. Ўся сямейка
Спіць, адпачывае.

Натрудзіўшы добра рукі,
Натаміўшы плечы,
Толькі маці з вераценцам
Туліцца пры печы

Ды прадзе, прадзе кудзельку.
Скача верацёнца,
А за ім густыя цені
Бегаюць на сценцы.

* * *

На камінку гарыць корчык,
Злотам іскры скачуць.
За аконцам вецер ходзіць,
Глуха вербы плачуць.

Зябнуць вербы на марозе,
Прытуліўшысь к стрэсе.
Снегам вецер сыпле ў дзверы,
Ходзіць шум па лесе...

І пад гэты шум трывожны
    Думае старая,
А ўслед думкам неспакойна
    Вецер падпявае.

* * *

І ўсё ўстала прад вачыма
    Беднае кабеты:
Маладыя дні дзяціны,
    Дзявочыя леты,

Радасць жыцця і нягоды,
    Сваркі, трасяніна,—
Ўсё, чым жыцце напаткае
    Ў цяжкую часіну.

Ўсё прыпомнілася беднай,—
    Горка, цяжка стала,
Галаву набок схіліла,
    Прасці перастала.

* * *

Вось і муж усплыў на думу—
    Рана смерць скасіла!
Дробных дзетак ён пакінуў—
    Без пары магіла!

Жыў ён бедна. Спадзяваўся
    Свой прыдбаць куточак,
Хату вывесці, зямелькі
    Прыкупіць шматочак,

Бо агоркнуў хлеб батрацкі,
    Жыцце пад'ярэмна...
Ды не вышаў з-пад няволі,
    Біўся век дарэмна!



* * *

Гасне корчык на камінку,
Пацямнела ў хаце,
Поўнач пеўні пракрычалі,
Але не спіць маці.

Цягне нітку. Вераценца,
З рук упаўшы, грукне,
Ды нясмела, як убогі,
Ў дзверы вецер стукне.

Думкі думку падганяюць,
Не даюць спакою,
Ўсё лятаюць над кабетай
Нуднай чарадою.

* * *

Уздыхнула цяжка маці,
Аб сынку гадае,
Што ў астрозе, ў паняверцы
Кару адбывае.

І за што? У толк не возьме
Бедная кабета
Ні законаў гэтых мудрых,
Ні парадкаў свету.

Вецер вые за вугламі,
Ў коміне галосіць.
Куды толькі думка тая
Матку не заносіць!

Зябнуць вербы на марозе,
Глуха лес гамоніць.
Думка думку выклікае,
Думка думку гоніць.

1908

## ПАД СПЕЎ ВЕТРУ

Вее вецер, свішча ў коміне,
Горка плача, надрываецца,
І цяпер мне тая музыка
Як жывая ўспамінаецца.

Помню хатку я старэнькую,
Што між лесу загубілася,
Каля хаты вярба ніцая
Да страхі галлём схілілася.

Ночка зімняя, халодная...
Вецер дзьме, не сунімаецца,
А над лесам гоман-шум густы
Гудам-гулам разліваецца.

А у коміне вецер песенькі
Распявае тонкім голасам
І па стрэсе снегам шорхае,
Нібы жыта спелым коласам.

То нясмела ў дзверы стукне ён,
Як-бы ў хату, бедны, просіцца,
То пад воканнем закруціцца,
Ды так горка разгалосіцца!

І прыціхне на хвіліначку,
Сілы-моцы набіраецца.
Ные сэрца, ные, смуціцца,
На спеў ветру адзываецца.

Помню, помню сваю хатачку,
Маю родную, далёкую,
Як успомню—жаль агортвае
Маю душу адзінокую.

1908

## МОГІЛКІ

Круглае поле. Узгоркі, каменне,
Лес па краях, як сцяна.
Ціха навокал. Нудна на сэрцы.
Птушка не крыкне нідзе ні адна.

Могілкі ў полі адны-адзінюткі.
Праслы гнілыя на дол палягглі.
Крыж пахіліўся гаротна-журботна.
Многа іх, многа ляжыць на зямлі!

Дзе-ні-дзе дрэўцы—бярозка, хваінка,
Дождж магілкі размыў, спаласкаў.
Вось дзе ад гора мужык адпачыне,
Вось дзе ён думкі-згрызоты схаваў.

1908

## УДОВІНА ХАТА

З краю вёскі сіроцінкай
Заняпала хата.
Тут не ладзяць вечарынак,
Не прадуць дзяўчаты.

Спарахнелі броўны ў сценах,
Вырас мох на стрэсе.
Сыра ў хаце, пуста ў сенях,
Глуха, як у лесе.

Прытуліўся хлеўчык збоку,
Як дзіця да маткі.
Смутна сэрцу, нудна воку,
Як зірнеш на хатку.

Шыбы ў вокнах перавіты,
Як-бы ў пераплёце,
Каля ганка дол парыты,
Збан, гаршчок на плоце.

Доля гэты кут мінае,
Гора тут пануе,
Тут кабета маладая
З дзеткамі гаруе.

Рве без жалю вецер стрэху,—
Цяжка без мужчыны!
Не чутно тут спеву, смеху—
Тут удоўка гіне...

1908

## ХМАРКІ

Светлыя хмаркі—дзеткі прастору—
 Ціха па небе плывуць.
Ім незнаёмы слёзы і гора,
 Смутак і жаль іх не рвуць.

Ціха і згодна ідуць, небажаткі,
 Ўсюды ім сцежкі ляжаць.
Ясныя зоркі, быццам дзяўчаткі,
 Скрозь іх валокны глядзяць.

Золатам сонца іх аблівае,
 Месяц ім срэбра дарыць,
Грозную песню ім гром праспявае,
 Вецер на крыллях імчыць.

Светлыя хмаркі, рунь залатая,
Дум небясоў чарада!
Вам незнаёма нядоля людская,
Клопат, згрызоты, нуда.

Стэп неаглядны, шыр нелюдзіма,
 Вольнае царства вятроў,—
Там вашы сцежкі, там і радзіма,
 Дзеткі блакітных стэпоў!

Станьце-ж вы, хмаркі, над рубяжамі
 Нашых палеткаў, шнуроў,
Ў сэрца людское закіньце з дажджамі
 Думкі іх верных сыноў.

1908

## ВЕЦЕР

Ой ты, вецер неспакойны!
Дзьмеш ты безустанку,
Адну песню нам спяваеш,
Адну баеш байку.

То заплачаш сіратою
Над убогай хатай,
То застогнеш, як над нівай
Селянін-араты,

То засвішчаш за вугламі,
Жалем разальешся,
То сярдзіта ў дзверы стукнеш,
Злосна засмяешся...

Ой ты, вецер неспакойны,
Ты мой брат па долі!
Раскідаем смех і слёзы
Мы у чыстым полі.

1908

## РОДНЫЯ ВОБРАЗЫ

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я

К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Толькі я лягу і вочы закрыю,
Бачу я вас прад сабой.
Ціха праходзіце вы, як жывыя,
Ззяючы мілай красой.

Чуецца гоман мне спелае нівы,
Ціхая жальба палёў,
Лесу высокага шум-гуд шчаслівы,
Песня магутных дубоў...

Вобразы мілыя, вобразы смутныя,
Родныя вёскі і люд!
Песні цягучыя, песні пакутныя...
Бачу і чую вас тут.

1908

## «АСАДЗІ НАЗАД!»

Дрэнна маё жыцце,
Ўсё ідзе не ў лад,
І крычаць мне ўсюды:
«Асадзі назад!»

Божа ты мой мілы!
Б'юся я, як гад,
Толькі-ж дзе ні ткнуся—
«Асадзі назад!»

Помню, я жаніўся.
Добры быў мой сват.
К дзеўцы нас паткнулі—
«Асадзі назад!»

Дзеўка была важна,
Ды сусед Кандрат
Ногу мне падставіў—
«Асадзі назад!»

Трапіў раз у горад,
Быў якраз «парад»,
Лезу я наперад—
«Асадзі назад!»

У засеках пуста,
Жыта пабіў град,
—Дай, старшынька, «ссуды».
— «Асадзі назад!»

Я з капейкі збіўся,
Зарабіць я рад.
— Ці няма работы?
— «Асадзі назад!»

Сам я растрапаўся,
Лезе з плеч халат.
— Памажыце, людзі!
— «Асадзі назад!»

Сына свайго ў людзі
Вывеў-бы Ігнат.
— Вось мой сын, паночкі!
— «Асадзі назад!»

Ў вёску хлеб прыслалі,
Там галодных шмат.
Пруся я з мяшэчкам—
«Асадзі назад!»

Галаву я маю:
Быў-бы дэпутат.
«Цэнзу» ты не маеш,
«Асадзі назад!»

Праўда, што таіцца,
Быў і мой чарод:
Два разы на жыцці
Вышаў я ўпярод.

Ўзбунтаваў я вёску.
Ой, быў цяжкі год!
Прыязджае прыстаў:
— Выхадзі ўпярод!

Гэта ты, мярзавец,
Ўзбунтаваў народ?
Гэй, гарадавыя,
Даць яму ўпярод!

1908

## КАНСТЫТУЦЫЯ

Канстытуцыю далі,
Адчынілі дзверы
І... ў астрог нас павялі,
І таўкуць без меры.

Віта нам дакляраваў—
Помніце?—свабоду.
Потым хвігу паказаў
«Вернаму» народу.

Зашумелі аб зямлі
Ў Думе дэпутаты,
Дык па карку ім далі—
І пайшлі дахаты.

Архірэй наш Міхаіл
Тураўскі і Мінскі
Чорнай сотні толькі міл,
Бо робіць па-свінскі.

Ганчакамі па Русі
Прыставы лятаюць,
Нас цкуюць—кусі, кусі!
Як зайцоў, страляюць,

Развялося стражнікоў,
Як якой жывёлы,
Ад іх плешак і шнуроў
Чырванеюць сёлы.

Колькі ўсякіх строгіх мер—
Канца няма, краю!
Канстытуцыю цяпер,
Як пяць пальцаў, знаем.

1908

## МАЛЕБЕН

Як свет наш з'явіўся,
Людзьмі засяліўся,
Ад сівага века
Не знаў чалавека—
Магу пабажыцца,
Магу залажыцца,—
Каб ён так маліўся.

Адслужым малебен,
Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у аладцы,
Як у мосце дзірка,
Як з гразі зацірка,
Як скула-балячка.

І меў ён адвагу
Звацъ цароў у Гагу,
Каб вайны не вялося,
Крыві не лілося.
Ці-ж гэта не смешна—
Зрабіць так паспешна,
Ці чулі брадзягу?

Хваліўся бясконца,
Як шоў на японца,
З мікады смяяўся,

Да ўсім выстаўляўся,
Ды кідаў мільёны,
Пасылаў «іконы»—
Без флоту застаўся!

Вось цар занудзіўся,
Што сын не радзіўся.
Беглі, шлі гадочкі,
Раджаліся дочкі.
Раздаў цар мільёны
На цэрквы, на звоны:
Сына прасіце, папочкі!

Трасліся ўсе муры,
Папы лезлі з скуры—
Кадзілам махалі,
Чыталі, спявалі,
Трывожылі бога,—
Не вышла нічога:
Ўсе модлы прапалі.

Рэскрыпт цар надрэпаў,
З'явіўся тут Трэпаў
Для ўсіх нечакана,
Як воўк з-за кургана.
І стаў ён пасрэднік,—
Радзіўся наследнік,
Але ці Раманаў?

Вось ліха наперла,
Крамола не змерла,
Не жыць з залатоўкі,
Пашлі забастоўкі,
Ўзняўся люд убогі,—
Пасталі дарогі,—
Цар бачыў вяроўку,

Пусціў ён у порткі,
Падбег Віта вёрткі
І Рыман, і Зіны,
Розныя скаціны...
Нагайкі, расстрэлы
І лес штыкоў цэлы—
Цягнуць людзей на асіны.

Пануй, Мікалае,
Часіна такая,
Трымайся прастола,
А будзе вас гола.

Акончан малебен,
Ты нам не патрэбен,
Другі і апошні Мікола!

1908

## У НЯВОЛІ

За народ, што пад ярмом
Шыю гне і спіну,
Што кляне лёс ціхачом
Кожную часіну;

За народ, што марна схне,
За святое брацтва
Адабралі ад мяне
Ўсё маё багацтва...

Як за краты я зірну,
Сэрца млее з болю:
Меў уцеху я адну—
Адну толькі волю.

Ды гвалтоўнікі мае,
Ворагі ліхія,
У мяне ўзялі яе,
Адабралі, злыя.

Што-ж? няхай мой вузкі круг,
Няхай я ў няволі,
Толькі-ж ім свабодны дух
Не стрымаць ніколі!

Толькі думак не стрымаць,
Не загнаць у клетку...
Будзем разам гараваць,
Думкі, мае дзеткі!

1908

## Ў АСТРОЗЕ

Нудна Сцёпку за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сцёпкавы дадому.

Дома жонка, дома дзеткі...
Бог святы іх знае
Як жывецца небаракам
Там, у родным краю!

Ходзіць Сцёпка з вугла ў вугал
Ды зірне ў аконца.
За рашоткай відно неба,
Хмарак валаконцы.

Эй, хмарынкі! плывяце вы
У старонку тую,
Дзе пакінуў я сямейку,
Хатачку старую!

Ох, паплыў-бы я, здаецца,
Хмаркі, разам з вамі,
Каб на вёску сваю глянуць
Нуднымі вачамі.

Там, далёка, за дамамі,
Разляглося поле,
Лес, узгоркі і курганы...
Эх, прастор там, воля!

Дзесь у полі дым сінее—
Бульбу люд капае.
Сцёпка-ж бедны так марнее,
Долю праклінае...

Ляжа Сцёпка спаць на «нары»,
І праз цэлу ночку
Ўсё аб роднай вёсцы сніцца,
Аб сваім куточку!..

Нудна Сцёпку за рашоткай,
Нудна, эх, старому!
Плачуць думкі, рвуцца думкі
Сцёпкавы дадому.

1908

## НОЧ У АСТРОЗЕ

Ноч глухая. Ціха.
Густа легла цьма.
Дрэмле чутка варта,
Цяжка спіць турма.

Страшнай зяўрай змеч
Карыдор глядзіць,
І тужліва лямпа
Свеціцца, дрыжыць.

Обак карыдора
Камеры відны.
Пад замкамі дзверы,
З кратамі яны.

І, здаецца, сцены
Ціснуцца цяжэй,
Гнуць яны і душаць
Ўсё мацней, мацней.

Нудна, бы ў магіле,
Глуха, бы ў труне,
Толькі часам крыкне
Арыштант у сне.

Мо' Кабека[1] здасца,
Спраўніка прысніць,
Ды «параша» зрэдка
Глуха загрыміць.

1908

---

[1] Старшыня Віленскай судовай палаты.

## СЯБРАМ

Гэй, сябры мае!
Дзе вы, родныя?
Віхры лютыя,
Непагодныя

Разагналі вас
Ва ўсе стораны,
І дарогі вам
Пазавораны.

Сцежкі вузкія
Палыном зраслі,
І нічога вам
Не відно ўдалі.

Няма хат у вас,
Ні вуглоў сваіх,
І змоўк голас ваш,
І ваш смех заціх.

А за што, за што
Вам ганьбу далі?
За што гоняць вас
Прэч з свае зямлі?

Эх, сябры-браты!
Самі знаеце:
Агню палкага
Іскры маеце.

Не тушыце-ж вы
Той агонь святы,
Асвятляйце ім
Родны край, куты...

Што-ж? няхай віхры
Надрываюцца,
Няхай ворагі
Насміхаюцца.

Хоць на дзераве
Зжоўкла ўся ліства,—
Вясна вернецца,
Адрасце трава.

1908

## НАША ВОЗЬМЕ

Мы ходзім, спатыкаемся,
Бадзяемся, як п'яныя,
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя.

Асмеяны, аблаяны,
Гразёю мы замазаны,
Багатымі мы скрыўджаны,
Няволяю мы звязаны.

Ў балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны,
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

1908

## ПЕСНІ ВЯСНЫ

Песні ў полі, шум і гоман,
Ну-ж і выдаўся дзянёк!
Снег на дзірах, лёд надломан,
І спявае ручаёк:

«Гэй, сябры, гэй, ручаёчкі!
Дружна разам пабягом.
Гайда, гайда ў свет, браточкі!
К тым шырокім берагом!

Людзі-волаты! глядзеце,
Колькі гонім мы вады,
Бо яднанне—сіла ў свеце,
Хто-ж дужэй ад грамады?

Мы дарогі ў полі знаем,
Не заблудзіць там вада.
Знанне—сіла! Мы гукаем:
Гэй, за намі, грамада!

Мы імчым, мы гонім воды,
Затапілі мы брады.
Дружнасць—першы крок свабоды,
Згода—сіла грамады».

1909

## ДАРОГА

Між спелага жыта
Сінее валошка,
Бяжыць паміж нівак
Крывая дарожка.

Скажы мне, дарога,
Хто ездзіць табою?
Куды ты крывенькай
Бяжыш паласою?

Па ўзгорках высокіх,
Багатых пяскамі,
Даўно пралягла ты
Двума паяскамі.

Скажы мне, дарожка,
Чаму ты крывая,
І вузка і цесна,
Як доля людская?

Бяжыш ты часамі
Праз горы, курганы...
Чыёю рукою
Крыжы пастаўляны?

Знаць, гора-нядоля
Тут след пакідае...
Маўчыць, не гаворыць
Дарога крывая.

І бедныя людзі
Тут ездзяць і ходзяць,
А шчасця і долі
Ніяк не знаходзяць.

1909

## ЦЕМРА

Бедны мы і цёмны,
Ходзім слепакамі,
Судзімся і б'ёмся
З роднымі братамі,

І адзін другога
Часта акрадаем,
І куды йдзе праца,
Самі мы не знаем.

Пуста, бедна ў хатах,
Чад і гразь і сырасць...
Хто нас ў кут адціснуў?
Чыя гэта міласць?

На каго мы робім?
Што за гэта маем?
На каго ўсе сокі,
Сілы вынішчаем?

Пад ярмом адвечным
Шлі мы без дарогі,
Натрудзіўшы плечы,
Зверадзіўшы ногі.

Папіхалі намі,
Гналі, як жывёлу,
Змардаваных, босых,
Неакрытых, голых.

А ўсё дармаеды
Нас без жалю лаюць,
Мужыком, хамулам
Злосна папікаюць.

Эх вы, дармаеды,
Моль вы, вош людская!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячах трымае?

1909

## СЯБРУ

Эх, і бедна-ж у нас!
Ох, вялікая глуш!
Брат! працуй, не чакай,
Цьму людскую ты зруш.

Восень, доўгая ноч
Над народам вісіць,
З кожнай хаты нуда,
Недастача глядзіць.

З кожных грудзей людскіх
Хоча вырвацца крык,
Стогн збалелай душы
Бедакоў-гарамык.

Вочы, поўныя дум,
Ў дол маўкліва глядзяць,
Дзе надзеі даўно
Іх спрадвеку ляжаць.

Раскатурхай народ,
Свет яму развяжы
І за долю яго
Працу ўсю прылажы.

1909

# ПОКЛІЧ

Гэй, чуеце, хлопцы? Дзе вы, скажэце?
Развеяны ветрам па беламу свеце.

Па ўсіх вы куточках маўчком распаўзліся,
Ад думак даўнейшых сваіх адракліся.

Забылі вы песні пра вольную волю,
Змаганне за шчасце, за лепшую долю.

Адспевана песня, бясследна прапала,
Бо хлеба скарынка язык вам звязала

І нізка прыгнула вас першая бура—
Ацесліва, хлопцы, знаць ваша натура.

І тыя ярэм'і, што вы асмяялі,
Вы зноў-жа пакорна на шыі паклалі!

Ці чуеце, хлопцы?.. Адказу не маю
І «вечны пакой» вам ў астрозе спяваю.

1909

## НЯВОЛЬНІЦТВА

Глуха стала пасля буры,
Нудна цягнуцца дзянькі.
Не праб'ецца крык праз муры,
Крэпкі ржавыя замкі...

Нечым сэрца распацешыць,
Нечым дух разварушыць,
Як часамі боль прыспешыць,
Голас волі закрычыць...

Эх, як цесна тут, як дзіка!
Не зайздросна наша часць:
Не пачуюць твайго крыка,
Ніхто помачы не дасць!

1909



## ПІСЬМО З АСТРОГА

— Напішы мне, калі ласка,
Пісямко дахаты!
Піша з дому мне Параска,
Што сын здан ў салдаты...

Охо-хо!—Пракоп ўздыхае
Джургае чупрыну,
А ў руках пісьмо трымае
І канверцік сіні.

Просіць шчыра грамацея,
Нават шапку скінуў.
Сам Пракоп пісаць не ўмее—
Дзе? ў бядоце гінуў!

Гадаваўся на мякіне.
Жыў з худобай змалку.
Смак жыцця пазнаў на спіне,
Высах сам у палку.

А нарэшце, вось, папаўся
Ў спісак арыштанскі.
А за што? нібы збіраўся
Падпаліць лес панскі!

— Што-ж табе пісаць, старэнькі?
— А пішы, нябога!
Жонка, сын мой даражэнькі!
Шлю паклон з астрога.

Сэрца мне баліць, і вас я
З думак не спускаю.
Кожны божы дзень і час я
Дом успамінаю.

Жонка мая дарагая!
Ты не скрыўдзь Івана,
Калі грошай нехватае,
Папрасі ў Сцяпана.

Няхай Сцёпка не баіцца—
Аддамо з падзякай.
Хлопцу-ж трэба хоць акрыцца,
А не йсці сабакам.

Спраў кажух яму і боты,
Выпраў, як і людзі.
Дай з сабою колькі злоты—
Весялейшы будзе.

Калі корму досыць маеш,
Падкармі больш свінку,
Мо' якую захаваеш
На вялікдзень шынку.

А калі на грош няхватка
Або корму мала,
Закалі і з поўдзесятка
Хунтаў прышлі сала...

Сын мой! снасці рыбаковы
Добра ты прыпратай—
Згодзяцца, а венцер новы—
Маеш час—залатай.

І яшчэ, мой сын, прашу я,
Човен кінь ў адрыну,
Няхай вецер не свідруе,
Няхай так не гіне,

Усё, што можна, захавайце,
Пакуль я вярнуся.
Нераток стары аддайце
Міхалю з Габрусем.

Кнігі ўсе, апроч псалтыра,
Вы аддайце Грышку,
Хай сабе чытае шчыра,
Бо ён любіць кніжку.

Дарагі сын! перад здачай
Да мяне зайдзі ты,
Можа болей і не ўбачу,
Не пачую, дзе ты.

Не маркоццесь, не бядуйце—
Дасць бог спосаб новы,
Што-ж ты зробіш? пагаруйце...
Будзьце ўсе здаровы!

1909

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Помню, помню тую ночку!
Не забуду я той час.
Пеў салоўка у садочку,
Зор цягнуўся ў небе пас.

Выплыў месяц круглы, поўны,
Падрумянены, як блін.
Церушыўся мрок бязмоўны,
І п'яніў мяне язмін.

І прышла ты нечакана,
Сама, строгая, прышла!
І са мною аж да рана
Тую ночку правяла.

Загадала першым дзелам
«Рукі ўгору» мне падняць
Ды кішэні аглядзела,
Нават кіцель мусіў зняць.

Распарола мой сяннік ты,
Развярнула мой бярлог,
І лісты мае ад Вікты
Паляцелі за парог!

І ўвесь час на тваім твару
Не сходзіла строгасць, злосць
І, сказаўшы мне слоў пару,
Запытала: «Пашпарт ёсць?»

Ты набрала маіх кніжак
Два партфелі і прыпол,
А каб быць знаёмым бліжай,
Напісала пратакол.

1909

## З ТУРМЫ

Цесна мне тут, горка мне!
Просіць сэрца волі.
Плачуць думкі па вясне,
Хочуць лепшай долі.

Гэй ты, лес, хваёвы бор,
Бор густы, высокі!
Неба сіняга прастор,
Стэп яго шырокі!

Я да вас хачу, каб збыць
Ўсе мае нягоды
І свой голас разам зліць
З песнямі прыроды.

Люб мне поўдзень, цішыня
Раніцы прахладнай,
Крык у небе каршуна,
Ў высі неагляднай,

Луг шырокі над ракой,
Долы і паляны.
Рвуся к вам я ўсёй душой,
Родныя курганы!..

Гэй ты, лес, зялёны бор,
Бор густы, высокі!
Неба сіняга прастор,
Стэп яго шырокі!

1909

## ЗА ПАДАТКІ

Колькі ўжо раз за падаткі
Стараста пужае!
Ох, няхай іх, горка з імі,
Хто таго не знае!

Аж тут пісар прыязджае
Разам з старшыною...
Ой, нічога-ж не парадзіш
З горкаю бядою!

— Пачакайце, калі ласка!—
І—бух ім ў ногі!
А назаўтра я Красульку
Пацягну за рогі.

Зарыкала так жалобна
Бедная жывёла,
І мне сэрца гэтым рыкам,
Як нажом, парола.

Жонка плача, лементуе...
Гэтак па дзіцяці,
За труною йдучы, плача
Хіба толькі маці...

Я йшоў збоку, і здушылі
Горла мне залозы.
Ў поле вышаў—паліліся
З вачэй самі слёзы.

1909

## ДОЛЯ БАТРАЧКІ

Маці ў службу выпраўляе
Родную дзяціну,
Выпраўляючы, хавае
Горкую слязіну.

— Будзь паслушная, дачушка,—
Навучае матка:
— Дагаджай чужым ты, служка,
Ды цярпі, дзіцятка!

Не адзін раз твае вочкі
Заплывуць слязою.
Твая доля цямней ночкі—
Цяжка быць слугою!

Бо не ўважыць чужаніца
Ручак тваіх белых,
Поту выльецца крыніца
З шчочак загарэлых.

Ўстанеш летам раней зоркі,
Пойдзеш перша ў поле...
Ой, дачушка, хлеб твой горкі,
Горка твая доля!

Маці дочку разважае,
Сябе цешыць стара,
Жаль да сэрца падступае,
Як чорная хмара.

Вось дзяўчына ўжо гатова,
Пакідае хатку.
— Ну, матулька, будзь здарова!—
І цалуе матку.

— Ну, бывай!..—І не ўтрывала
Бедная матуля.
Жаль слязамі ёй прарвала,
Твар да дочкі туліць.

Вышла маці ўслед за ёю,
Стала ля парогу
І, падпершы твар рукою,
Зорыць на дарогу.

На дарогу-пуцявіну—
Там яе Гануля,
Ды за слёзкаю слязіну
Роніць-лье матуля.

Доўга матка так глядзела,
Дочку праваджала,
Покі хустка яе бела
З вочак не прапала.

1909

## Ў ДАРОЗЕ

Між узгоркаў і курганаў
Сцежка вузкая ляжыць,
Даль нямая з-за туманаў
Сірацінаю глядзіць.

Лес акрыўся тонкай тканню,
Сіняй дужкаю лёг гай,
За крывой далёкай гранню
Тоне ў бляску яго край.

Цішыня ва ўсім раздоллі,
Ўся заліта сонцам даль.
І сціскае душу болем
Ні то смутак, ні то жаль.

Ўецца сцежка прада мною,
У шырокі свет бяжыць.
Дзе звіваецца змяёю,
Дзе як стужачка ляжыць.

А я далей ўсё дыбаю
Між узгоркаў і раўнін,
І мне шэпча жыта з краю:
«Ты адзін, адзін, адзін!»

1909

## АСЕННІ ДОЖДЖ

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Ціха па стрэсе бубняць.
Смутак наводзіць шум іх жалобны,
Смутку таго не суняць.

Хліпанне, плюскат... Ночка глухая
Цягнецца доўга, як год.
Вецер заложны шуміць, не сціхае,
Жаласна свішча праз плот.

Кружацца думкі, сон разганяюць,
Мары наводзяць і сны,
Волю далёкую мне ўспамінаюць,
Дні маладыя вясны...

Сыплюцца кроплі часта і дробна,
Ў сцены, у вокны бубняць.
Смутна іх песня, плачу падобна,
Смутку-ж ніяк не суняць.

1909

## Я НЕ ЗНАЮ...

Я не знаю сам, браточкі,
Чаму мне так мілы
Буры, плач асенняй ночкі,
Спеў яе пастылы,

Лесу гоман, гуд нястройны,
Шум лазы ў балоце,
Баязлівы, неспакойны
Шолах у чароце.

Я не знаю, чым мне дораг
Від палёў благенькіх,
Нудны клік у родных горах,
Вербак рад крывенькіх.

Маё сэрца, маё вока
Цягне хвоя тая,
Што у лузе адзінока
Сохне, умірае;

Жаралісты дуб высокі,
Колісь поўны сілы,
І той крыжык адзінокі,
Вартаўнік магілы;

Дзе так сумна ветры веюць,
Точаць дол пясчаны,
Дзе чыесь-та косці тлеюць,
Чыйся прах схаваны...

Я не знаю, я не знаю,
Чым я так прыкуты
Да тваіх, мой родны краю,
Вобразаў пакуты!

1909

* * *

Зоры далёкія, зоры бліскучыя
Ціха гараць над зямлёй.
Крыкі знаёмыя, тоны пявучыя
Льюцца вячэрняй парой.

З поўначы-холаду, сівера бурнага,
Гусі на поўдзень ляцяць,
З неба далёкага, стэпу лазурнага,
Смутна прашчанне крычаць.

Дзікія гусанькі, птушачкі вольныя,
Веснікі скорай зімы!
Хочацца з вамі мне ў стэпы прасторныя,
К свету і сонцу ад цьмы.

Толькі-ж падрэзаны крыллі свабодныя,
Моцна пільнуюць мяне
Дзверы акутыя, сцены халодныя,
Краты жалеза ў акне.

1909

## ДУМКІ

Рана засмуціліся,
Думкі, сэрца дзеткі,
Рана вы завялі,
Веснавыя кветкі!

Ці мароз знячэўку
Вас прыбіў вясною,
Як на сцежку жыцця
З простаю душою

Стаў я, поўны веры,
Радасці і сілы?
Што-ж на вас дыхнула
Холадам магілы?

Што-ж вы неспакойна
Кружыцесь, як пчолы?
Думкі, мае думкі!
Што вы невясёлы?

Ці краіны роднай
Балаты гнілыя
Смуткам вас акрылі,
Думкі маладыя?

Ці вас песня-жальба,
Думкі, ўзгадавала?
Ці людское гора
Ў лесе вас спаткала?

Ці маё так жыцце
Склалася няўдала?
Ці мая дарога
Ў туманы папала?

Рана спахмурнелі,
Думкі маладыя,
Рана вы завялі,
Кветкі веснавыя!

1909

## БЕЗДАРАЖ

Хмурна. Глуха. Цьма пануе.
След у полі загубіўся.
Што-ж спужаўся? што стаіўся?
Ці што вуха тваё чуе?

Сцішна. Пуста. Адзінока...
Свет закрыла цьма густая.
Паваротка тут крутая,
Не змыліся-ж, маё вока!

Неба ў хмарах. Даль імгліста,
А дарогі скрыжаваны.
Што-ж там свеціць праз туманы?..
Стой, не йдзі: то—бляск нячысты!

Ціш і безлюдзь,—ну, страхоцце!
Ані гуку, ані зыку!
Толькі свіст у лесе дзікі
Ды хмар сунецца лахмоцце.

Мрок стаіўся нерухома,
Пад нагамі лом, каменне.
Вось выпадак, вось здарэнне!
І куды йсці—невядома.

Не пужайся, пойдзем далей—
Ноч мінецца, змоўкнуць совы!
Дзень спаткаць будзьма гатовы!
Дык наперад, брат, павалім!

1909

## РОДНЫЯ ПЕСНІ

Вісне скарга уздоўж Нёмна
Беларусі сына.
Як ты бедна, як ты цёмна,
Родная краіна!

Збіты ў кучу твае вёскі,
Стрэхі ў дол уходзяць.
Смутнай песні адгалоскі
Лес, курганы родзяць.

Крыж збуцвелы, знак пакуты,
Тут і там чарнее.
Даль паўнютка ціхай смуты—
Жаль на душу вее!

Ўсё ў табе, мой родны краю,
Апавіта горам:
І той вецер, што дзьме з гаю,
Што шуміць над борам,

Тыя песні, што на полі
Жнеі запяваюць,
Тыя думкі, што да болю
Сэрца калыхаюць.

Ва мне-ж смутак, гора гэта
    Водгулле знаходзіць,
Сэрца-ж, жалем абагрэта,
    Песні смутку родзіць.

Няхай плачам у тэй далі
    Песня разальецца,
Каб усе на свеце зналі,
    Як нам тут жывецца.

**1909**

## МУЖЫК

Я—мужык, бядак пахілы.
Ўсе ўшчуваюць мужыка.
Цягнуць кроў з яго і жылы,
Надрываюць яго сілы,
Ў мазалёх яго рука.

Я—мужык, я—сын пакуты,
На мякіне вырас я,
Гічанамі пуза ўздута,
Ногі ў лапцікі абуты,
Бедна вопратка мая.

Я—мужык, я—сын бядоты.
Недаем і недасплю,
Гнусь пад цяжарам работы,
Дзень працую за два злоты,
Здзекі ўсякія цярплю.

Я—мужык, не чую звону,
Толькі-ж есць мяне чарвяк:
Ці не брэша поп з амбону,
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, не так!

Я—мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

1909



## ПЕРАД СУДОМ

Не ў салдаты выпраўляе
Маці свайго сына,
Не на службу ў двор да пана,—
Едзе ў суд хлапчына!

Знае маці—не жартуюць.
Судзяць суддзі строга,
Хоць сынок яе не злодзей,
Не зрабіў нічога:

Не забіў, не абясславіў,—
О, не, не! крый божа!
Гаварыў ён—ну, што ў гэтым?—
Што так жыць нягожа,

Жыць і гнуцца, прад багатым
Поўзаць чарвякамі,
Што даволі ўжо цярпелі
Доўгімі вякамі,

Што даўно пара за розум
Бедным людзям ўзяцца
І парадкаў справядлівых
Трэба дабівацца.

А каб справіцца з няпраўдай,
З крыўдаю, з бядою,
Дык націснуць трэба людзям
Дружнай грамадою...

Конь запрэжан, ўсё гатова.
Смутная дарога!
Не суліць яна старэнькай
Добрага нічога.

Горкі жаль акрыў кабету
І здушыў ёй грудзі.
Ў кут забілася і плача,
Каб не зналі людзі

Яе гора і трывогі
І жальбы па сыну.
— З богам, сынку! хай дае ён
Добрую часіну!

Рушыў конік. Заскрыпелі
Весніцы ґаротна.
Азірнуўся бедны хлопец
Горка і маркотна.

На дварэ стаіць матуля,
Галавой кіўнула,
А сама слязу буйную
Рукавом змахнула.

Вось і поле. Конік трусіць,
Вецер падзімае.
Азірнуўся хлопец—хата
З вока прападае.

І абцёр ён непрыкметна
Жаласці слязіну.
Эх, відаць, няскора ўбачыць
Родную хаціну!

1910

## У СУДЗЕ

Янку прыгавар чытае
Член акружнага суда:
«Суд праўдзівы палагае
За праступак, што Дуда
Учыніў па добрай волі,
Ў цвёрдай памяці, вуме—
За пакражу жыта ў полі
Пратрымаць год у турме!..»
— А турму ты як адбудзеш,—
Кажа член, каб горш кальнуць,—
Дык правоў ты мець не будзеш,
Нават соцкім не збяруць!
Пакланіўся, асцярожна
Янка члена стаў пытаць:
— Мой паночку! ці няможна
Тых правоў і з сына зняць?

1910

## У ЦЕМРЫ

Падзівіся, браток,
Што за цемень вакруг!
Ў хмары месяц уплыў,
І бляск зорак патух.

Не чуваць галасоў
Свежых, вольных, жывых,
Толькі совы крычаць
Па трушчобах глухіх.

Ім уторыць пугач—
Цёмны жыхар дупла.
Падзівіся, браток,
Што за цемень-імгла!

Толькі зрэдка у цьме
Бляск пужліва мігне,
Быццам воўк з-за кустоў
Злосным вокам зірне.

Гэта бляск—не агонь.
Гэта—фальш, гэта—зман...
Падзівіся, браток,
Як гусцее туман!

Эх, і цёмна-ж у нас—
І дарожак не знаць,
А прасвету нідзе
Не відаць, не відаць!

Ў хмары месяц зайшоў,
І бляск зорны патух,
Падзівіся-ж, браток,
Што за цемра вакруг!

Ды не бойся, мой брат,
Гэтай жудкай цішы
І свайго ты агню
Не тушы, не тушы!

Пройдзе ноч, згіне цьма,
Непраглядны мрок-цень.
Змоўкнуць совы ў дуплах,
Як развідніцца дзень.

1910

## НА АСТРОЖНЫ ЛАД

Зноў павеяла турмою,
Згаслі ў змрочнасці агні,
І гаротнай чарадою
Нудна цягнуцца нам дні.

Зноў абшарпаныя сцены,
Звяга цяжкіх ланцугоў,
І няма ніякай змены
Ў гэтым холадзе муроў.

Ды няхай тут плача доля
Без уцехі і надзей:
Тым даражай будзе воля,
Час світання весялей.

1910



Сохну марна я ў астрозе,
Дарма трачу сілы.
Рвецца дух мой на свабоду
З гэтае магілы.

Шкода хаткі мне старэнькай
З латанай страхою,
Што схілілася над Нёмнам
Горкай сіратою.

Шкода мне зялёнай нівы,
Што шуміць у полі,
Таго дуба, што над рэчкай
Песціцца ў прыволлі.

Шкода мне гаёў цяністых
І лугоў прастору,
Дзе пад ветрам ходзяць хвалі
Травянога мора.

Шкода светлай ручаінкі
Ў берагах пясчаных,
Што, як срэбра, мкне-бруіцца
Паміж гор, курганаў,

Шкода вёсак запусцелых,
    Дзе ральнік гаруе,
Дзе зімою вецер вые,
    Кудаса шнуруе...

Гэта—вобразы краіны,
    Беларусі роднай...
Край ты наш! як міл ты сэрцу,
    Цёмны край, галодны!

Ды не век я тут гарую,
    Дачакаю волі
І пачую ў родным краю
    Песні лепшай долі.

1910

## ДЗЕ ДЗЕНЕШСЯ?

Не такі чорт страшны,
Як яго малююць.
Хай усе хоць людзі
На цябе сярдуюць:

Ад сабак паганых
Ёсць кій бараніцца,
Ад «шнуроў чырвоных»
Можна адкупіцца.

Ад мундзіраў сініх
Можна даць і драла,
І твая свабода
Не зусім прапала.

І з людзьмі ліхімі
Можна меркавацца,
І ад крэдытораў
Спосаб ёсць схавацца.

Покі служаць ногі,
Можна бегчы ўсюды,
Ад сябе-ж самога
Не ўцячэш нікуды.

1910

## ПЯСНЯР

Кажуць людзі: «Што ты смутны,
Што спяваеш ты пра гора.
Твае песні—стогн пакутны,
Слёзы ветру на прасторы!

Ты злажы нам песню волі,
Песняй шчасця залівайся,
Ціхім спевам нівы ў полі
Ў струнах сэрца адклікайся,

Каб на нас вясна дыхала,
Грэла душу цеплынёю,
Каб нам сэрца сагравала
Ціхім шчасцем, дабратою».

Ой вы, людзі! няма-ж волі:
Скуты мыслі ланцугамі.
Пусты нівы нашы ў полі,
Злосны віхар дзьме над намі!

Ці-ж я сэрцам не балею?
Ці-ж мне смутак лёгка даўся?
Я спяваю, як умею,
Я пра радасць пець не здаўся.

1910

## НОЧ ПРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Стаў чырвоны месяц круглаліцы,
І зоркі боязна дрыжаць,
А там крыжуюцца зарніцы.
Бы косяць неба-сенажаць.

Бурліць крыніца агнявая,
Бы нейкі грозны віхар-вір,
І бляскі-іскры разлівае,
Як залаты агністы жвір.

Замоўк дзянны клапотны голас,
Усюды сон, спакой ляжыць.
На ніве чутка дрэмле колас,
І ліст на дрэве не дрыжыць.

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны—
Далёкіх хмар магутны гром,

Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.

А хмара грозна нацiскае,
Маланка неба баразніць.
А ночка спіць, а ноч не знае,
Што зараз бура зашуміць.

1910

## ДУМКІ

Дрэмлюць думкі цяжкай дрэмай,
Поўныя трывогі.
Ім на свет з магілай немай
Не прабіць дарогі.

Ім няма дзе прыхінуцца,
Хоць і свет злятаюць,
А часамі, як ачнуцца,
Жаласна ўзыграюць.

І смуткуюць сэрца дзеткі,
Што мы тут ў няволі,
Што пасохлі жыцця кветкі
Без пары, без долі,

Што мы гора збыць не ў сілах,
Крыўды не зваюем,
Што быць можа да магілы
Долі не пачуем.

Не смуткуйце-ж вечарамі,
Думкі, гора дзеці!
Хоць мне цяжка, толькі з вамі
Не адзін я ў свеце.

Цьмяна жыцце, ні іскрынкі,
Ў кут яно забіта,
Толькі-ж з вамі, сірацінкі,
Гаманю адкрыта.

1910

## ПЕСНЯРУ

Заспявай ты мне песню такую,
Каб мне душу паліла яна,
Каб у ёй ты нядолю людскую
І ўсё вычарпаў гора да дна.

Скажы, як у няволі жывецца,
Як нам шыі здушыла ярмо,
Як душа наша томіцца, рвецца,
Як жыццё прападае дармо.

А той мут, што жыццём называем,
Страсяні і да дна ўскалышы,
Няхай сэрца ў грудзях узыграе
І зазвоняць ўсе струны душы.

І каб кожны тваё пачуў слова,
І той нават, чый дух заскаруз,
Каб хіліліся з жалю галовы,
Каб затросся узбурана вус.

Заспявай-жа ты песню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людскую,
Каб грымела, як гнеў перуна.

1910

* * *

Толькі стогне зямля,
Толькі вецер шуміць.
Ў нашым бедным краі
Ўсюды ночка ляжыць.

Што-ж? сцяліся, туман,
Покі восень стаіць:
Восень—свята тваё,
Ўсюды цемень ляжыць.

Не маўчы-ж ты, сава,
Ў цёмным лесе гукай.
Ведай, ночка—не год,
Заварушыцца гай...

1910

## НА КРЫЖОВЫХ ДАРОГАХ

На пагорку ў чыстым полі
Крыж стаіць убогі,
Там і тут жаўцеюць ролі,
Ў свет бягуць дарогі.

Даль раскрылася шырока
З гэтага узгорка.
Ціха ў полі, адзінока,
Штось на сэрцы горка.

Я стаю і аглядаю
Горак рад убогі,
А куды ісці—не знаю,
Не ўлаўлю дарогі.

Дагарае дзень. Змярканне
Ахапляе далі.
Калі скончыцца блуканне
Ў бездарожных хвалях?

Вечар немы, бездарадны
Крочыць з-пад нізіны...
Хоць-бы голас дзе ўспагадны,
Хоць-бы гук адзіны!

1911

## СЯЛЯНСКІЯ ДУМКІ

Не вясёлая, галодная,
Халадэчамі багатая,
Эх, вясна, вясна, халодная,
Чым пацешыш ты аратая?

Не растуць хлябы, марнуюцца,
Сохне праца ўся вялікая.
Драсяны ў жытах красуюцца,
Ў ярыне—свірэпка дзікая.

На лугі зірнеш мурожныя —
Жоўкнуць травы і старэюцца,
Ды грудочкі прыдарожныя,
Як барадаўкі, жаўцеюцца.

Ветры з поўначы халодныя
Веюць злоснымі парывамі.
Ходзяць хмары, ды бясплодныя
Не раняюць слёз над нівамі.

Мусіць ведаюць, што нашымі
Слязмі-потам бедачынымі
Шчыра зліты нівы з пашамі,
Луг шырокі з азярынамі.

Сушь, бяздожджыца, бязросіца...
Ох, знаць, будзе год галодненькі!
Не адзін тут разгалосіцца
З тваіх дзетак, край наш родненькі!

1911

## ЖНІЎНЫЯ ПЕСНІ

Жарыць сонца без літосці,
Варам пыша ад палёў,
Трэцца жыта ў пыл на просце,
Зерне сыплецца далоў.

Хоць-бы хмарка дзе на небе,
Хоць-бы рэдзенькі цянёк.
І без часу ў цвёрдай глебе
Спее грэчка і лянок.

Душна ў полі і маркотна.
Постаць жоўтая хлябоў
Ціхім шолахам гаротна
Просіць жнеек і сярпоў.

Вось прышлі і жнейкі ў поле.
Заскакаў крывы сярпок,
І панёсся на прыволлі
Жнейчын звонкі галасок—

Сакавіты і пявучы,
Як вясенька, малады,
А тон жаласны, цягучы,
Поўны жальбы і нуды.

І панёсся ён мяжою,
Вольны будзячы прастор,

Потым скаргаю-слязою
Ў неба вырваўся, замёр.

Колькі смутку ў песні жніва!
Хто той смутак парадзіў?
Ці жыцця лёс нешчаслівы,
Ці ты, журба нашых ніў?

Ці ты, поле, грунт няплодны
Горам песню абвілі,
Каб аб краю нашым родным
Мы забыцца не маглі?

1912

## НЕ БЯДУЙ!

Не бядуй, што сонца нізка,
Што прыходзіць нудны дзень,
Не бядуй, што восень блізка
І лягла на землю цень.

Не бядуй, што снег халодны
Скрые землю ад вачэй;
Не загіне край твой родны
У тэй цемені начэй!

Будзе час, і снег растане,
Прыдзе зноў да нас вясна,
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана.

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што звіслі хмары,
Што нам сонца не відаць,
Не бядуй, што ўноч пажары
Сталі неба заліваць,—

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат,—жыцце залатое
Будзе ў нашай старане.

1912

* * *

Эй, скажы мне, небарача,
Ты, каго ў ярме трымаюць,
Чыё жыцце папіхаюць:
Сам гібееш, доля плача,
Ва ўсім чысценька нястача.

Сееш многа ты і дбала,
Хоць скупое тваё жніва,
Адкажы ты мне праўдзіва:
Што цябе тут прыкавала?
Ці табе дарожак мала,

Або свет тут зачыніўся?
Ці ты глух на папіханкі?
Свецяць рэбры скрозь катанкі,
А праз шапку чуб прабіўся.
Ці ты век цярпець згадзіўся?

Ці не чуў аб лепшай долі?
— Ой, даўно-б я ўсё пакінуў,
Толькі-ж многа слёз я лінуў,
Выліў поту ў тыя ролі,
Дзе ўзыходзяць песні болю.

Дык няхай свет хоць трасецца,—
Я тут вырас, тут і згіну,

А разорак тых не кіну,
Дзе мой смутак, жаль снуецца,
Дзе мне шчасце не даецца,—

Бо я цвёрда веру ў тое,
Што наш засеў ў полі дзікім
Гневам вырасце вялікім
І затопіць усё злое,
Ўсё няшчасце векавое.

1912

## БУДЗЕ НАВАЛЬНІЦА

Ноч надыходзіць, і хмары ўстаюць.
Лозы размову трывожна вядуць.
Боязна шэпча трава, чараты,
Ў хмарах знік месяца рог залаты.

На небасхіле зарніцы мігцяць,
Громам узрушана грозная рацць.
Мрок насядае глыбей і цяжэй...
Грымні-ж ты, бура, ды грымні дужэй!

1912

## БУДЗЬ ЦВЁРДЫ

Ты не гніся, брат, ніколі
Траўкаю пахілай:
Сам пружыны сваёй долі
Выкуй ўласнай сілай!

Бо хоць кажуць, што з уклону
Не баліць галоўка,—
Не зважай: з ярма-прыгону
Вышла гэта слоўка.

Не прасі, не спадзявайся
Ты на дапамогу:
Сам з нягодамі змагайся,
Сам прабі дарогу!

Хоць памогуць табе людзі
Адшукаць дарогі,
А саб'ешся, зноў ты будзеш
Абіваць парогі.

Не лісціся к сільным, дружа,
Зеллейкам-бярозкай,
Бо не выйдзеш век з-пад гужу,
Страціш вобраз боскі,

І ў людзей ты гоман страціш—
І цябе зракуцца:
Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца!

1912

## ЗАКЛІКАННЕ ВЯСНЫ

Ты прыдзі, вясна жаданая,
Прыдзі!
Гукам жыцця, песняй працы
Загудзі.
На узгоркі, на нізіначкі
Зірні,
Сон трывожны, сон цяжкі наш
Разгані!
Ты нясі нам радасць, сілачку
Нясі,
Нашу ленасць і нядбаласць
Атрасі.
Ты ляці на крыллях выраю
Скарэй,
Абласкай цяплом пахілых,
Абагрэй.
Наша жыцце, нашу долечку
Пабач,
Над жытамі цёплым дождживам
Заплач.
Пракаціся громам-грукам
Угары.
Ты ідзі, нясі цудоўныя
Дары.
Узбагаць ты добрым засевам
Наш край,

Ты прыдзі і з намі дружна
Заспявай!
Ўскалыхні ты струны сэрданька
Жывей,
Каб было нам жыць на свеце
Весялей.
Дык ідзі да нас, жаданая,
Ідзі,
Раскатурхай нашу дрэму,
Абудзі!

1912

## СТАРЫЯ ПЕСНІ

Скарга нязменная, гора нязбытае...
Голь змардаваная, голь неакрытая,
Бедная, цёмная голь!

Чуецца ўсюды тваё нараканне,
Нездаваленне, жальба і стагнанне,—
Душу ахватвае боль.

Стогне з табою і даль сіратлівая,
Ціш гэта немая, доля маўклівая,
Гоні, разлогі палёў...

Чым-жа пацешыць вас, людзі пакутныя?
Як разагнаць вам думкі ўсе смутныя?
Гора-ж не сціхне ад слоў!

1914

## УВОСЕНЬ

З узгорка ў лагчынку дарожка збягае.
Дубы наабапал стаяць.
А хвалі крынічныя—хто іх там знае—
Аб чымся, знаць, важным шумяць.

І хвоі—суседкі, і смутныя ёлкі,
Бы ўдовы, стаўпіліся тут:
Даведацца хочуць і травы і зёлкі
Навін, што прышлі ў гэты кут.

І ўсе неспакойны, і ўсе засмучоны,
Бы нечага боязна ўсім,
А вецер-задзіра гудзе, як шалёны,
І вые над лесам пустым.

Хвалююцца дрэвы, а красачкі ў скрусе
Зямлі адбіваюць паклон.
«Не бойцеся», з неба гукаюць ім гусі:
«Не вечны зімовы палон...»

З узгорка ў лагчыну шыбуе дарога,
Стаяць наабапал дубы.
Між дрэваў і красак пануе трывога,
І цені снуюцца журбы.

1914

## НА ПРАСТОР!

Гэй, на волю, на разлогі
Смужных даляў і палёў,
Дзе ва ўсе канцы святоў
Леглі вольныя дарогі!

Дзе без хітрыкаў, праўдзіва
Колас гутарку вядзе,
І дзе дуб стары гудзе
Не лісліва і фальшыва,

А сваёй старой гудою,
Як і век ён гаварыў,
І дзе ўсю красу раскрыў
Луг шырокі над ракою.

Гэй, туды, дзе неба з долам
Абняліся, як браты,—
Хоць на міг забудзеш ты
Гэтай фальшы нудны шолам!

1914

## НОВАМУ ГОДУ

Хто нам скажа, хто згадае,
Чым нас новы год спаткае
І парадуе нас чым?

Год мінулы злым прыдаўся.
Тросся свет і садрыгаўся,
Апавіты ў смаль і ў дым.

Наш набытак зншчан прахам.
Неашчадным, страшным махам
Смерць кранулася зямлі.

На сіротах нашых, нівах,
Замест снопікаў шчаслівых,
Густа косці паляглі.

За сяўцоў былі гарматы,
Замест зернятак—гранаты
Шчодра сеялі ў той год.

Незлічонымі крыжамі
След адзначан, дзе з слязамі
Бег разбураны народ.

Гора Белу Русь спаткала,
Ў свет далёкі люд пагнала.
Цяжак быў мінулы час.

Чым-жа новы год спаткае?
Ці аціхне бура тая?
Чым парадуе ён нас?

1915

## НА РЭЧЦЫ

У бераг высокі, дзе лозы растуць,
За хвалямі хвалі бягуць,

І ўсхліпвае рэчка ў пясках залатых,
Як маці па дзецях сваіх,

І ў беразе вербы злучаюць свой сум
У гэты нярадасны шум.

І неба маркотна, і хмары плывуць,
Іх слёзы на землю цякуць...

Прыбіты вадою на срэбраны гак,
Ляжыць невядомы бядак,

Ваяка—салдацік ад дому ўдалі...
Яму не знайшлося зямлі!

Эх ты, небарака! то знаць па табе
Ўсё вецер сумуе ў вярбе,

І рэчка у хвалях-жалобе бяжыць...
І смутак імглісты ляжыць...

Ды рэчка заціхне, і вецер засне,
І ласкаю неба зірне,

І ўсё сапачыне, спазнае час свой.
А людзям ці будзе спакой?

1916

## ДУМКІ САЛДАТА

Разлучыўся салдат з сваёй роднай сям'ёй,
Развітаўся ён з домам сваім.
Знае лес баравы, дзе ён дыбаў ступой,
Што за думкі віліся над ім.

Замірала душа, млела сэрца яго,
Засціліліся вочы слязмі.
Кінуў жонку адну і дзяцей... на каго?
Хоць ты з жалю разбіся вазьмі.

Разважае бядак, дом не йдзе з галавы,
Пахілілася з гора яна.
І, здавалася, з ім плакаў лес баравы,
Быццам думка была ў іх адна.

У нязнанай далі мы дажджэмся чаго?
Прападзеш, бы й на свеце не жыў.
І не скажа ніхто, дзе магіла яго,
Дзе ён косці свае палажыў.

Скрозь прагалін лясоў былі хмаркі відны,
Ў сінім небе іх нікла руно.
І, здавалася, з ім смуткавалі яны,
Як-бы гора было ў іх адно.

Эх, за што? ну, за што, адкажыце вы мне,
Я павінен другіх зніштажаць
Ці калечыць сябе ў гэтай дзікай вайне
І пад кулі свой лоб падстаўляць?

Вы, што селі ўгары, як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў.
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Міліёнамі нашых галоў!

1916

## ПОЛЕ

Зараслі вы, межы, ў полі
Дзікім зеллем, палыном!
Гаспадар на вас паволі
Раніцой не йдзе з канём...

Нехапіла сіл жаночых
Глыбей землю заараць,
На загончыках сірочых
Травы сталі красаваць.

Вось і трэцце даў бог лета,
А няма гаспадароў,
Не чутно цяпер да свету,
Як даўней, іх галасоў.

Дзе-ж вы, дзе, браты-сяляне,
Што нідзе вас не чуваць?
Ды баяцца на пытанне
Межы свой адказ даваць.

Сіратою глядзіць поле,
Сумна ўдаль бягуць шнуры.
Хто-ж адкажа, што за доля
І дзе іх гаспадары?

І трывожна шэпчуць гоні,
На пытанне шэпчуць мне:
«Ці пабіты, ці ў палоне,
Ці скалечаны ў вайне».

1916

## ПАЛЕССЕ

Край лясоў, край балот
І туманаў гнілых!
Хоць і бедна ў табе,
Хоць у лозах тваіх
Вецер жудасна ўвосень шуміць,
А ўсё міл ты мне. Чым?—
Я не ведаю сам,
А твой вобраз маім
Прыглядзеўся вачам,
Да цябе маё сэрца ляжыць.
Я люблю твой прастор,
Гмах шырокі балот,
Дзе бубняць бугаі,
Дзе красуе чарот
І дзе травы, як мора, ляглі.
Калі лес там, дык лес:
Можна тыдзень дыбаць;
А прастор, дык прастор—
І канца не відаць,
Не ахопіш, не змерыш зямлі.
Я люблю твой спакой,
Яснасць ціхіх дзянькоў,
Залаценькі убор,
Тую чырвань лясоў,
Што на сонцы увосень гарыць.

Я далёка цяпер
Ад палескіх раўнін,
А люблю-ж я той край,
Бы яго родны сын,
І па ім маё сэрца баліць.

1916

## ГУСІ

Гусі, гусі, вырай вольны!
Сумен крык ваш, гусі:
Леціцё вы ў свет раздольны
З нашай Беларусі.

Засмуткуюць зноў балоты
Без вас, госці лета.
Занудзяцца, як сіроты,
Лозы там да свету.

Бабыль-вецер на світанні
Пойдзе ў свет шырокі,
Пойдзе ў злосці, буркатанні
Аглядаць валокі.

А вы, гусі, пад аблокі
Крыллямі ўзмахнеце,
Каб не бачыць, як асокі
Гне і ломіць вецер.

Што-ж! ляціце—для свабоды
Вам і крыллі служаць...
Толькі-ж шкода чагось, шкода—
Па вас далі тужаць

І гаруе сіратлівы
Ў чырвань лес адзеты...
Ой вы, гусі! паняслі вы
За сабою лета!

1916

## ВОРАГАМ

За што лілася кроў людская?
За што гібеў і гінуў люд?
Гібеў набытак ўсяго краю
І пакаленняў гінуў труд?

І бег народ, бы ў час паморку,
Закрыўшы вочы, ў белы свет,
І толькі дым ўздымаўся горкі,
Крыжы азначвалі іх след.

А колькі смертак дзетак мілых
На вашым сумленні ляжыць?
Пануе ціш на іх магілах,
І край разбураны маўчыць.

І вы цяпер рукамі ката
Гатовы згоду дараваць?
Але ці можна у вас брата,
Скажыце, Каіны, прызнаць?

Вам не па сіле груз цяжэрны
Вайны, што самі вы ўзнялі,
Знішчэнне, мах яе бязмерны,
Згінота цяжкая зямлі!

Не вы дасце народам свята,
Не вам пажар вайны заліць!
Дык рукі прэч, забойцы, каты!
Не вам аб згодзе гаварыць!

1916



Люд стогне, гаруе пад цяжарам меча,
Скаваў яго сэрца гарачае лёд.
Адкрыты дарогі табе, чалавеча,
На поўдзень, на захад, на ўсход.

Ты вольны, нябога, ідзі, куды хочаш,
Ты можаш ярэм'е пабіць.
І чуткія вушы, арліныя вочы
І сэрца ты маеш любіць.

Вы-ж збіліся з сцежкі, вас ноч ахапіла,
Арліныя вочы патухлі у вас;
Вас водзіць у полі нячыстая сіла,
Агонь ваш у сэрцы пагас.

Аб чым-жа сумуеш, народ неспакойны?
Акінь сваім вокам прыгожую даль,
Ахамяніся, будзь волі дастойны,
І радасць пазнаеш, адкінеш ты жаль.

1917

## ДА ПРАЦЫ

Браты! вялікая дарога
Чакае нас і родны край—
Жніво настала, працы многа,—
Навукі семя засявай!

Святло нясіце—ў мроку дрэмле
Наш мілы край, наш родны кут.
Хай уваскрэснуць нашы землі,
Няхай асветліцца наш люд.

Хай будзе спор нам у прыгодзе!
Не царскі біч, не панскі хам,
Хай будзе лад ў сваёй гаспадзе
Ствараць народ-уладца сам.

1917

## ВОДГУЛЛЕ

Ці коска зазвоніць у час касавіцы,
Ці песню дзяўча запяе,
Ці неба заззяе ў агнях бліскавіцы,
Ці вецер задзьме-зазлуе,

Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці грукне над лесам пярун,—
Ўсё водгук знаходзіць у вольных абшарах,
Ўсё іх дакранаецца струн.

А ты, калі гора каго напаткае
Ці жальба пачуецца, плач,
Або запануе дзе крыўда ліхая,—
На ўсё адгукніся, адзнач.

А радасць пачуеш, надзеі ўзаўюцца,
Каб добрыя весткі падаць,
Няхай тады струны твае засмяюцца
І песняю шчасця гучаць.

1921

## ПОКЛІЧ

Гэй, чулыя сэрцам! гэй, душы жывыя!
Ідзіце вы долю каваць!
Ёсць у вас сілы яшчэ маладыя,
Ёсць у вас крыллі лятаць!

Але сцеражыся: балотная бросня
Іх кожную хвілю сачыць,
А гніллю зацягне—душа не ўваскросне,
Ўгару над зямлёй не ўзляціць.

Вы чуеце хваляў жывых набяганне?
Прыглядзьцеся: новыя дні
На вас пазіраюць у іскрах світання,
І свецяць другія агні.

Спяшайцеся, брацці, расою халоднай
Ваш твар выразлівы абмыць
І дух той гаючы палёў, нівы роднай
У грудзі чым больш захапіць.

Але памятайце: на вашым сумленні
Не сплачаны доўг векавы:
То доўг прад народам, то доўг разумення,
Якое зачэрпалі вы

З народнага скарбу душы самабытнай
І з скарбу яго мазалёў:

То ён, працавік наш, то ён, старажытны,
  На гору вас моўчкі узвёў.

Гадуе вас поле, што золатам ззяе...
  Пяскоў, нераджайных пяскоў.
Вас корміць сярмяга, што долі не знае,
  Не ведае ласкі братоў.

Ідзіце-ж к народу, як добрыя дзеці,
  Ідзіце, злучайце яго
І горкую праўду у вочы скажэце.
  Чаго ён гаруе, чаго?

1921

## У ПАЛЯХ БЕЛАРУСІ

Дзень добры вам, лясы і далі,
Прасторы вольныя зямлі!
Я зноў між вас, пагоркі-хвалі,
Палоскі цьмянае раллі!

Вітаю вас, як блізкіх, родных,
Старыя хвоі на палёх,
І вас, красёнцы сцежак згодных,
Сляды нялічаных дарог!

І гэты жоўценькі пясочак,
Дзе хвойкі зелена растуць,
Бярозы тыя, што ў шнурочак
За рубяжы зямлі бягуць.

Над рэчкай гэты луг мурожны,
Дубоў развіслых цэлы рад,
І буслаў дом, стары, заможны,
Як той пасэсарскі пасад.

То тут, то там лясок сінее,
Ў лагчынах рэчачкі блішчаць,
Куды ні глянь—пакоем вее,
На ўсім адна ляжыць пячаць:

Развагі мудрай, задумення
І нейкай смутнае красы.

І чуеш ў гэтым лятуценні
Адвечнай песні галасы.

А хмарка ў небе, ў ясным полі
Плыве шчасліва, як дзіця,
І забываеш мімаволі
Ўвесь клопат будняга жыцця.

Куды ні гляне мае вока,—
Ўсё поўна згоды, дабраты.
Ты маеш выгляды прарока,
Наш край пакуты, край святы!

1921

## ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

Уцякай, мароз-дзядуля!
Чуеш ты, стары, ці не?
На пагорках—булі-гулі!—
Песні чуюцца вясне.

Звоніць, скача, як дзіцятка,
Гэты жэўжык-ручаёк.
На яго, бы тая матка,
Сонца кідае свой зрок.

А ён гучны і смяшлівы,
Так і ходзіць, аж дрыжыць,
І другі сябрук шчаслівы
Насустрэч яму бяжыць.

Ты паслухай, дзед сярдзіты,
Што там чуецца ўгары?
Што за спеў за самавіты
Ў небе правяць песняры?

А зіма аж пачарнела—
Годзе ёй тут кросны ткаць!..
Гэй, маленства, жыва, смела
Выйдзем весну прывітаць!

А як слаўна каля хаткі
Нам пабегаць, пагуляць!
Ну, зіма! збірай манаткі,
Годзе нас табе ўшчуваць!

Маладая вясна,
Залатая пара!
Будзь красна і ясна,
Не шкадуй нам дабра!
Вокам маткі зірні,
Бледнасць з твара згані!
Дай ўздужаць маладым
Пад павевам тваім.
Мы вяночак спляцём,
Табе песню спяём.

1922

## ЗМАГАННІКАМ ЗА КАСТРЫЧНІК

Бушавала бура з сілай нечуванай,
А вы шлі напорна крокам нестрыманым.

Вар'яцела мора, пеніліся хвалі,
А вы шлі няспынна—вабілі вас далі.

Бухалі гарматы, грукацелі громы,
А вы шлі наперад віхрам-бураломам,

Разбівалі ковы, векавыя путы,
А на кожным кроку вораг злы і люты.

І было змаганне, ой, было змаганне!
Не хацеў стары свет страціць панавання.

Каледзін, Карнілаў, Калчак і Дзенікін—
Шла навала супраць у шаленстве дзікім.

І каваў кайданы вораг за граніцай,
Ды ніхто не здолеў той жывой крыніцы.

Ліха, небяспека ўсюды вас чакала,—
Згінула ў дарозе змагароў нямала.

А дарога ваша—горы, перавалы,
Але ўсё здалелі раці занядбалых.

Пройдзен шлях пачэсны, трудны і вялікі,
Не залье яго той шквал шалёна-дзікі,

Што падняць гатовы Чэмберлен зацяты—
Кінуты па свеце добрыя зярняты.

Вышлі зерні тыя ў шоўкавыя руні—
Праўдай сталі вашы мары аб комуне.

1927

## ВОРАГАМ

Яшчэ не стлеў у полі дрот калючы—
Агідны след знішчэння і вайны—
Яшчэ на могілках буяюць бур'яны,
Дзе тысячы галоў зляглі ў крывавай бучы;
Яшчэ не зроўнены накопаныя кручы
І не засеяны аблогі-дзірваны,—
А вы, прыслужнікі драпежнага Ваала,
Зноў вострыце загнутыя дзюбы,
І сліна пырскае з запененай губы;
Вам трэба кроў—крыві пралітай мала:
Ражном у горле вам сябрына наша стала,
Дзе самі ўладары—нядаўнія рабы.
Ну, што-ж? Пускайце ў ход і подкупы й намовы,
Нацкоўвайце сабак пад граканне варон,
Але вам не стрымаць той вольнасці разгон
І бег яго няўхільны, паступовы,
Што ў пух і прах развейвае аковы,
Каб іншы выснаваць парадак і закон!

1927

## БРАТАМ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Няхай паны ў сваёй дурноце
Мацней сціскаюць абцугі,
Каб вас душыць у злосным гнёце,
Каб на калючым панскім дроце
Павесіць скарб наш дарагі;

Няхай ксяндзы-жрацы-блюзнеры,
Падпёршы тылакам алтар,
Выводзяць панскія намеры
З святых канонаў свае веры,
Каб болей сталася ахвяр;

Няхай шалее гэта зграя,
Няхай чадзіць «святы» дурман,
Каб выбіць з беднага ратая
Прагненне к волі таго края,
Дзе не прышчэпіцца больш пан;

Няхай караюць там сурова,
Каб дух народу загасіць;
Хай «ужонд польскі» слова ў слова
Бярэ прыклады з Мураўёва,
Каб рух спаганіць, ахлусіць;

Няхай «ад мора і да мора»
Жыве ў закручаных мазгах,—
Браты! Мінецца ліха-гора,
І панскі шал затхнецца скора,
Бо стукне молат па панах.

1927

## ДА 11-е ГАДАВІНЫ

Ідуць гады сталёвым штыхам,
Гады змагання, перамог,
Стаіўся вораг і прылёг,
На Край Советаў чмыша ліхам...
Паціху, злоснікі, паціху:
Ці пераступіце парог?

Трашчаць усюды вашы гмахі,
Праела моль стары каптан.
Вам не падняць гнілых сутан,
І не ўратуюць вас ні плахі,
Ні вашы цёмныя замахі,
Ні служак здрадніцкі абман.

Ўстае, расце, мацнее хваля,
Шырэй, дужэй яе разгон,
Імя тэй хвалі—легіён.
Зальюцца ў грозным перавале
Свой час аджыўшыя скрыжалі,
Бо новы пішацца закон...

Ідуць гады напорным крокам,
Гады змагання, перамог.
Ідуць мільёнамі дарог...
Сябры! Сачыце пільным зрокам—
Жаданы край яшчэ далёка,
А вораг сілы ўсе напрог.

1928

## КРАІНЕ СОВЕТАЎ

Адзванілі званы на званіцах,
І збуцвелі, паніклі крыжы,
Знакі цемры-імжы.
Новы край тут паўстаў з навальніцаў,
Забурлілі другія крыніцы
На шырокай Совецкай мяжы.
У пустых дзірваністых абшарах,
Патапельніц і багны балот
Дзівы робяцца ў год:
Ажываюць аблогі-імшары,
Загараюцца зоры-стажары,
Асвятляюць вялікі паход.
І спяваюць вятры-самагуды
Гучным звонам у струнах дратоў,
На гітарах слупоў,
Што бягуць, як ганцы з Асінбуду,
Каб працоўнаму вольнаму люду
Прывітанне аддаць хоць без слоў.
Бурны рост. Цвёрды крок. Будаванне.
Зносяць межы ў палях трактары,
Новых дзён песняры,—
Тут будуюць сваё бытаванне,
І сімфоніі працы, змагання
Пролетары, зямлі ўладары!
Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння.

Разагнуўся працоўны твой люд:
Грукат, шум, гоман, гуд...
Пакацілася ліха ў прадонне.
А калі-ж ты, калі, Занямонне,
Адсвяткуеш свой дзень, як мы тут?
Дык дазволь-жа і мне ты, краіна,
Прывітаць малады твой разгон,
Песню-быль, казку-сон.
А ваякам тваім, хто загінуў
За свабоду, працоўных айчыну,
Мой журботны і нізкі паклон.

1930

## ЯНКУ КУПАЛУ

*(Да 25-годдзя літаратурнай дзейнасці)*

Была пара. Марнелі нашы гоні
У холадзе жыццёвых непагод.
 Ішоў за годам год,
 Маўчаў, цярпеў народ,
Заціснуты, задушаны прыгонам.
Была пара. Знямела слова ў краі
Пад уціскам жандарскае нагі.
 У полагу смугі
 Разлівамі тугі
Звінеў наш сум на гуслях-самаграях,
Журыліся і плакалі іх струны,
Ды слухалі іх толькі дзірваны,
 Балоты, курганы
 Ды ў межах палыны;
Карчма-ж была і школа і трыбуна!
Ды час прабіў, і волі промень глянуў,
Вясёлкаю прарваўшыся з-за хмар.
 Знайшоў ты шлях, пясняр,
 Пакрыўджаны свой дар
Панёс ты голасам трыбуна і баяна.
Грымеў твой кліч, іскрылася крыніца
Адточаных, як меч, і выкаваных слоў.
 У словах тых было—
 Нядоля наша, зло

І заклікі да яснай заранiцы.
Прайшлі гады. Магутны віхар дунуў
У цемру-ноч адвечнае жуды.
    Самкнуліся рады
    Працоўнай грамады
Пад лозунгам сусветнае комуны.
Упаў тыран. Адчынены дарогі!
Мільёны мас—дзяржава і ўладар...
    Грымі-ж яшчэ, пясняр!
    Нясі працоўным жар—
Грамчэй заві да новай перамогі.

1930

## ПІОНЕРАМ

Шлях паказан вам шырокі,
Шлях прасторны,
Светлы, зорны,
Дык наперад цвёрдым крокам,
Шум вясенні, яснавокі!
Дзеці волі, дзеці буры!
Ваша ранне—
Бой, змаганне:
У Кастрычніцкай віхуры
Карані вашай натуры—
Быць гатовым дружна крочыць,
Сямімільна!
Звеннешчыльна!
Вышэй сцяг трымаць рабочы!

1930

## ПАНАМ-ВАЯКАМ

Забразгалі
«Шабелькамі»
Палкоўнікі-паны.
Не ўрымстуюць
Пілсудчыкі:
Ім хочацца вайны.
З'язджаюцца,
Злятаюцца
Крывавых спраў майстры,
Шушукаюць,
Змаўляюцца,
Падпальваюць кастры,
Каб з дымам іх,
З пажарамі
Зноў рушыцца ў паход.
Мы ведаем
Іх намеры
Магнатаў, ваявод;
Прадонне іх
Палохае—
Гісторыі прысуд.
Шукаюць нам
Пагібелі,
А будзе ім капут.

Палкоўнікі,
Ваеўнікі!
Вам меч ці па плячы?
    Прыпомніце
Вы прыказку
Старую аб мячы!

1930

## БУДЗЬЦЕ ЧУЙНЫ

Чорныя цені,
Шэпат таемны,
Шум падазрэнны,
Глухі.
Шворыцца вораг,
Свой, чужаземны,
Намысел тоіць
Ліхі.
Выпаўзлі гады,
Сыкаюць злосна,
Пасці раскрыўшы,
Вужы.
Ткуць дыпламаты
Хітрыя кросны,
Точаць бандыты
Нажы.
Змовы, хаўрусы
Рознай пачвары—
Прагнуць, акулы,
Крыві.
Згледзіш тут шпоры,
Крыж і ціяры,
Голас учуеш—
Даві!
Туга завязан
Вузел з'ядналы

Шаек сусветных,
Банд, зграй.
Ткуцца, плятуцца
Гнусныя планы
Супраць Советаў—
Зважай!
Свет стары гіне,
Сыходзіць са сцэны,
Але натворыць
'Шчэ бед.
Стой-жа на варце,
Юная змена,
Чуйна ахоўвай
Совет!

1932

## НАШЫ ДНІ

Праімчаўся віхор, пыл і затхласць размёў,
Сцяг чырвоны разняўшы ўгары...
Вы, таварышы, вы ўладары
Гэтых фабрык, заводаў і вольных палёў.
Зарунела ралля,
Твар мяняе зямля—
Новы засеў вянкі перамогі заплёў.
У нябыт адыходзіць закляцце вякоў,
Гэты здзек, гэты жах кабалы,
Гэта цемра папоўскай імглы,
Гэта тхлань і насланне ліхіх ведзьмакоў—
Запалілі агні
Большэвіцкія дні
І спалілі нашчэнт звон іржавых акоў.
Не пазнаеш зямлі і вясковых людзей—
Не, не тыя, не тыя яны!
Іншым клопатам людзі паўны:
Крута іх павярнуў большэвік-чарадзей.
Новы гоман наўсцяж,
Замест «мой», громка «наш»
Вылятае з калгасных здаровых грудзей.
Знята ўлада зямлі, векавечны прыгон,
Што пракляццем лажыўся на нас.
Бляск фальшывы навекі пагас...
Я вітаю вялікі, шырокі разгон
Нашых дзён маладых,
Гоман творчасці іх...
Дык ярчэй-жа гары, сонца радасных дзён!

1933

## ШАСНАЦЦАТАЯ ГАДАВІНА

Цвёрды крок жалезнай волі
След пакінуў, як ніколі,
    Ў гэты слаўны год.

Большэвіцкаму напору
Паддаліся скалы, горы
    І паўночны лёд.

Гэтай воляй і стыхіяй
Ў берагі вайшла другія—
    Рэкі, вадаспад.

Намаганнем тым геройскім
Па каналу Беламорскім
    Пацяклі назад.

У пустэлях Кара-Кума
Гімны пеў маторным шумам
    Караван аўто.

То не людзі, а тытаны,
Зразумелі, кім пазваны
    Біцца і за што.

І глыбіні стратасферы
Большэвіцкі розум змерыў,
    Як ніхто нідзе.

Творчай воляй комуністаў
Шлях пралажаны агністы
Вольнай грамадзе.

Днепрабуд, Магнітастроі...
Слава, гонар вам, героі!..
Вораг, чуй, зважай!

Шлях шырокі ў свет адкрыты...
Дык красуйся і жыві ты,
Наш Совецкі край!

1933

## ВОСЕНЬСКАЕ

1

Зачынае гоман вецер непакорны
  На суровы лад.
Халадзеюць ночы. Шлях ярчэе зорны.
  Дні ідуць на спад.
Згорбленая восень под руку з вятрамі
  Клыгае ў імжы
І гірлянд пажоўклых на калгаснай браме
  Гойдае брыжы.
Кончылася лета. Адзвінелі песні,
  Громы навальніц...
Шкадаваў я колісь у сваім прадвесні
  Чуткіх заранiц;
Смуткаваў па леце, як па той каханай,
  Што ўзяла спакой,
І ў цішы самотнай з дум усхваляваных
  Я вянкі віў ёй.
Многа з таго часу дзён сплыло суровых,
  Многа лет прайшло,
І на свет гляджу я сёння з вышак новых
  Праз другое шкло.
Бачу і чытаю іншыя скрыжалі—
  Credo нашых дзён:
Вольныя пуціны, сонечныя далі,
  Без канца разгон.

І я ў захапленні, радасны і горды
За свой край, народ,
Убіраю ў сэрца дзіўныя акорды,
Творчай сілы ўзлёт...
Вось чаму я сёння не тужу па леце,
Па сваёй вясне
І за тым, што колісь навязаў мне вецер
У юнацкім сне.

## 2. ЗЯМЛЯ СОВЕЦКАЯ

Многа было сварак, боек, калачэчы
З-за цябе, зямелька
Родная ты наша!
Пільнавалі межаў, хаты свае, печы,
Вузенькіх палосак
І гібельнай пашы.

Не жылі—марнелі на ваччу з павязкай:
Свет быў нам зачынен,
Не было разгону.
Сёння гэта ліха—злыбедная казка,
Дзікі сон-навала,
Вынікшы з прыгону.

Выйдзіце на поле ды зірніце, братцы:
Не акінеш вокам
Польнага разлога!
Гоні—край-прыволле, ёсць аб чым разняцца...
Легла ты шырока,
Сельская дарога!

Пазнікалі межы—нудныя адзнакі
Цёмнага бязволля,
Жудкага бязвыйсця—
Шыр і безбярэжжа, дзе вятры-гулякі
Ходзяць станавіта,
Як сваты калісьці.

Гэтакіх прастораў і паны не мелі
І не будуць мець іх,
Трутні, абармоты:
Вырвалі мы з корнем тое пустазелле,
Што смактала сокі
З чорнае галоты.

Час не так вялікі, а якія змены!
І зямля не тая,
І не тыя людзі.
Сходзіць быль-пачвара, як ад сонца пена,
У рабоце двабай,
У няспынным гудзе.

Глянеш—не пазнаеш сёння ты краіны:
На балотах-багнах
Вырaслі пасёлкі,
Засвяцілі ў цемры, замест той лучыны,
Ільічовы лямпы
Ветла, як вясёлкі.

Пралеглі утульна праз лясы, праз нетры
Ільняным абрусам
Роўныя дарогі.
Едзеш—сэрцу ўцеха. Лічыш кілометры,
А іх гэтак многа.
А яны так строгі!

А надыйдзе жніва—высыплюць брыгады,
Загрукоча трактар,
Загудуць машыны.
Ці-ж калі мы снілі аб такіх парадах,
Аб рабоце дружнай
Гуртавай сябрыны?

Не цягае маці за сабой калыску
На кастлявай спіне
Ў жніўны час гарачы.

Не пачуць у полі здушанага піску:
Нашы дзеці ў яслях,
У садах дзіцячых.

І аб нашых дзецях сёння мы не тужым:
Свет ім разгароджан.
Ім дарогі гладкі,
Каб расці і выйсці пакаленнем дужым,
Новым пакаленнем
Большэвіцкай складкі.

Нашы дзеці сёння—самі камандзіры.
Лётчыкі-героі,
Докі-інжынеры.
То-ж яны схадзілі дзікія Паміры
І ў паўночны полюс
Прабіваюць дзверы!

Хто штурмуе неба ды ідзе ў дазоры,
Дзе ніхто ніколі
Не хадзіў у свеце?
Хто спыняе рэкі і злучае моры?
Гэта нашы людзі,
Гэта нашы дзеці!

Гэтакіх герояў ды такіх адданых
Выхавала мудра
Партыя і Сталін.
Сходзяць з зямель нашых мутныя туманы,
Што ні дзень, то болей
Сонечных прагалін.

Вось чаму я сёння, на ушчэрбе лета,
Не тужу па леце,
Як тужыў калісьці,
Бо-ж і песня-радасць намі не прапета,
Бо-ж вясна гучыць мне
І ў пажоўклым лісці.

## 3. УЧОРА І СЁННЯ

Пісала нядоля
Свой напіс закляты
На сценах драўляных
Закуранай хаты.

А сцены буцвелі,
А лес быў той самы,
І злыбедзь стаяла
Дзень-ноч каля брам.

З саломай па стрэсе
Вятры гаманілі.
Мы слухалі доўга
Суровыя былі

Пра голад, бяспраўе,
Галечу, паборы...
Нявётла свяцілі
Халодныя зоры.

У вокны глядзелі
Тужлівыя ночы,
Спявалі завеі
Пра лёс наш сірочы.

Паны-ліхадзеі
Дабро наша жэрлі,
Мужыцкія-ж дзеці
Гібелі і мерлі.

Вось так і жылося
Пад богам і панам,
Ды ўспомніў Кастрычнік
Пра нас занядбаных.

Жахнула маланка
Нясцерпнага гневу,
Агнямі прабегла
Грымотнага спеву.

Апалі туманы,
Смуга векавая,
І вышла ў прасторы
Дарога крывая.

Змоўкла сёння песня ліхаты, жалобы,
Рухнула закляцце вякоў.
І мы сталі людзі, знатныя асобы
Настаяшчай маркі і не нізкай пробы,
Хоць мы дзеці простых бацькоў.
А «мужык», як мера ганьбы і знявагі,
Кануў вечным правам—і квіт.
Мы—народ калгасны, вольныя трудзягі
І зямлі Совецкай горда носім сцягі,
Новае аблічча ў нас, від.
Самі брыгадзіры, самі аграномы—
Партыя дала нам правы.
З партыяй прайшлі мы навальніцы, громы,
Страсянулі крэпка панскія харомы.
Біліся з панамі, як ільвы.
Ды затое-ж сёння ты не згледзіш пана,
Драла за граніцу даў пан
І адтуль цікуе хціва, падзімана.
Глядзі не глядзі, пан, а зямля забрана,
Сунешся—і згубіш жупан.
І ў палацах панскіх самі гаспадарым,
Ладзім клубы, яслі, сады,
Каб наш пот калішні не загінуў дарам,
І канец кладзем мы панскім глупым марам—
Досыць нам ксяндзоўскай брыды.
Сёння мы не тыя, іншыя мы сталі—
Новы нарадзіўся народ,
Перад намі яснасць, ветласць яркай далі,
Партыя нас вучыць, а вядзе нас Сталін.
Смела глядзім мы ўпярод.

## 4. ЗА НОВУЮ ВЁСКУ

Драўляныя хаты, салома і мох—
Такая старынка, ох-ох.
Сляпыя акенцы, пабітае шкло—
Не хата, а так барахло.

Кудлатыя стрэхі, ламачыны, гніль—
Не наш ён, не наш гэта стыль.
Эх, хаты-хібаркі! Жабрачы ваш від
Сам просіцца, сам у нябыт.

Даволі глядзелі вы ў цемры вякоў,
Прытулкі нуды, прусакоў.
Вы—прыкрыя плямы, вы—шэрая цень,
Што цьмяніць наш сонечны дзень.

Вы роблены горам, бядачай рукой—
Пара вам, пара на спакой.
А ваша убоства, сэнс даўніх падзей,
Пакажа нам заўтра музей.

Замест-жа хібарак, панылых цямніц,
Наставім прыгожых святліц.
Аздобім садамі, дамо ім прастор
На наш, на савецкі узор.

Каб вока ласкалі і ўтульны былі:
Мы-ж людзі свабоднай зямлі.
Няхай заграніца, зірнуўшы на нас,
Адчуе, што значыць калгас.

1935

## ШЧАСЛІВАЯ ХВІЛІНА

Нясе маці з яслей сына,
Песціць яго, туліць
Ды варкуе з яснай мінай
Так, каб іх не чулі:

«Брыгадзір ты мой удалы,
Цвецік свежы макаў!
Як цябе там даглядалі?
Мо' ты ў яслях плакаў?

Не? не плакаў? Малайчына,
Мой калгаснік слаўны,
Мой ударнік, хват-мужчына,
Трактарыст упраўны.

А я ў полі прыбіраю
Жыта ў перавяслы
Ды сама сябе пытаю:
Як мой сын у яслях?

А сынок мой чысты, мыты—
Маладзічок ясны!
І расчэсаны, глядзі ты,
Кудраў яго пасмы.

Вот мой сын які шчаслівы.
Як аб ім тут дбаюць.

